## «Малайцы хлопцы!»




Старонка 2

## «Беларускія казакі»: небяспечныя гульні



Старонкі 6—7

№ 18 (903) 13 мая 2015

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



Міністр спорту купіў чатырохпакаёўку па цане, ніжэйшай за рынкавую

Старонка 4

# Гібрыдная стужка ў гібрыдны час

Аляксандр Лукашэнка не застаўся на парад у Маскве, але падыграў у іншым.
Старонка 3.

EPA

# «Малайцы хлопцы, добра згулялі!»

**Зборная Беларусі па хакеі на чэмпіянаце свету, які праходзіць у Чэхіі, выйшла ў плэй-оф, паказаўшы якасную гульню і здзейсніўшы сенсацыю.**

Маецца на ўвазе нечаканая перамога над ЗША — 5:2. Амерыканцы занялі першае месца ў нашай групе, перамогшы і Расію, і Фінляндыю. Цікава, што зборная Беларусі ні разу да гэтай гульні не абыгрывала Штаты.

9 мая адбылася яшчэ адна важная сустрэча: на Дзень Перамогі праціўнікамі беларусаў былі суседзі з усходу — расіяне. Тут здарылася адзіная на гэтым чэмпіянаце параза нашай каманды ў асноўны час. Ды нават не параза, а разгром — 0:7.

Пасля гэтай рэзананснай сустрэчы была параза ў напружанай гульні ад зборнай Фінляндыі: матч скончыўся з лікам 2:2, буліты фіны выканалі лепш за нашых хлопцаў. У апошнім матчы групавога этапа беларусы не без нерваў перамаглі зборную Нарвегіі з лікам 3:2 і, заняўшы 4 месца ў сваёй групе, выйшлі ў плэй-оф, дзе 14 мая сустрэнуцца з канадцамі. «Кляновыя лісты», дарэчы, на гэтым чэмпіянаце яшчэ не зведалі паразы, атрымаўшы ўпэўненыя перамогі ва ўсіх сустрэчах.

Каб атрымаць экспертную ацэнку гульні нашай зборнай на групавым этапе, мы звязаліся з былым галоўным трэнерам нацыянальнай каманды, настаўнікам мінскага «Юнацтва» Міхаілам Захаравым, які знаходзіцца побач са зборнай у Чэхіі.


Беларускі заўзятар з Прагі Аляксей Шыдоўскі кажа, што бел-чырвона-белых сцягоў на чэмпіянаце было менш, чым чырвона-зялёных.

СЯРГЕЙ ЗІНІН

«Малайцы хлопцы, вельмі добра згулялі. Паказалі, што хакей у нас на правільным шляху. І беларускаму народу ёсць чым ганарыцца за нашых хакеістаў — гэта адназначна.

Калюжны, браты Касціцыны згулялі здорава. Таксама Кевін Лаланд выдатна адстаяў. Ну а ўсе хлопцы малайцы, што выконвалі задачу, якую ім паставіў трэнерскі корпус. Таму я думаю, што няма хакеістаў, якія паказалі незадавальняючую гульню, — усім можна паставіць моцную «пяцёрку» за гэты групавы турнір.

З моладзі асабліва кагось выдзеліць складана — не так шмат яе ў нас там і гуляла. Нашай моладзі трэба яшчэ расці да таго самага высокага майстэрства, якім валодаюць вядучыя хакеісты.

Што датычыць матча супраць канадцаў, то можна выйграваць. Канада, канечне, як ніколі моцная, але гульня пакажа, хто акажацца лепшым.

Увогуле, арганізацыя турніру ў Чэхіі — на вельмі высокім узроўні. Я думаў, што на чэмпіянаце свету ў Мінску ў нас усё было на самай вышыні — нават і замежнікі прызналі, але чэхі паглядзелі на нас і зрабілі ўсё проста выдатна. Гэта файна: чым вышэйшая планка арганізацыі турніру, тым лепей для хакея».

**Зміцер Міцкевіч**

# Хто такі Дэйв Льюіс

**Адным з галоўных канструктараў беларускіх перамог на чэмпіянаце свету па хакеі справядліва лічаць нашага галоўнага трэнера Дэйва Льюіса.**

### Мае ўкраінскія карані

Льюіс часта падкрэслівае, што ягоныя бабуля і дзядулі па матчынай лініі былі ўкраінцамі. Вучылі яго ўкраінскай мове. Ён згадвае словы, якія чуў ад іх: «добры дзень», «яблык». Дзядуля пераехаў у ЗША, а потым у Канаду ў 1905 годзе, бабуля — у пачатку Першай сусветнай вайны.



Сам Льюіс нарадзіўся ў 1953 годзе ў мястэчку Кіндэрслі на поўначы Канады. Гэта рабочы пасёлак, большасць жыхароў якога былі звязаныя ці з сельскай гаспадаркай, ці са здабычай нафты і газу.

Льюіс нават невялікі перыяд працаваў галоўным трэнерам зборнай Украіны па хакеі, але нічога добрага за гэты час так і не выйшла.

Па бацькоўскай лініі дзяды Льюіса былі родам з Шатландыі.

### Тысяча гульняў у НХЛ

У наймацнейшай хакейнай лізе свету, у НХЛ, Дэйв Льюіс правёў 16 сезонаў у якасці гульца. Ён выступаў за такія каманды, як «Нью-Ёрк Айлендэрз», «Лос-Анжэлес Кінгз», «Нью-Джэрсі Дэвілз», «Дэтройт Рэд Уінгз». Агулам абаронца згуляў у НХЛ амаль 1008 гульняў, у якіх адзначыўся 36 галамі, а таксама 224 набранымі выніковымі ачкамі.

У іпастасі хакеіста Льюіс не атрымаў гучных тытулаў, але кампенсаваў гэта на трэнерскай ніве. Льюіс тройчы ўздымаў над галавой «Вялікую срэбраную салатніцу», як іншым разам называюць Кубак Стэнлі (1997, 1998, 2002). Ён дапамагаў легендарнаму Скоці Боўмэну ў працы з «Дэтройтам».

### Працаваў са зборнай і раней

Гэта было на Алімпіядзе-2010 ў канадскім Ванкуверы. Назваць той турнір надта ўдалым для беларусаў язык не паварочваецца, нашы не змаглі выйсці ў чвэрцьфінал. Запрасіў Льюіса ў зборную Беларусі абаронца Руслан Салей, які ў той час якраз выступаў за «Дэтройт».

«Жонка разумее мяне, — сказаў Льюіс пасля пераезду ў Беларусь. — А вось мой 16-месячны ўнук — наўрад ці. Жыццё — непрадказальная штука».

Сваім хобі Льюіс называе гульню ў гольф.

**Зміцер Панкавец**



## Сціcла

### Прыязджаў старшыня КНР

10—12 мая ў Мінску гасцяваў кіраўнік найбольшай краіны свету, Кітая, Сі Цзіньпін. Бакі дамовіліся, што Кітай выдасць Беларусі крэдытаў на $7 мільярдаў. Але не проста так — на крэдыты можна будзе купляць толькі кітайскія тавары або абсталяванне.

Гэта першы візіт старшыні КНР у нашу краіну ад 2001 года. Усяго за гады прэзідэнцтва Лукашэнкі ў Кітаі змянілася тры кіраўнікі. Там замацаваны прынцып змяняльнасці. Кожныя 10 гадоў адбываецца змена варты.

### Нашаніўцы Марціновіч, Гардзіенка, Панкавец перамаглі ў «Вольным слове»

Падведзеныя вынікі штогадовага журналісцкага конкурсу БАЖ «Вольнае слова». Сярод сёлетніх пераможцаў — тры аўтары «НН». Ягор Марціновіч з публікацыяй пра «Дразды-2» стаў найлепшым у «Расследаваннях». Алег Гардзіенка атрымаў другое месца ў «Мастацка-публіцыстычным жанры» за жартаўлівы «анлайн» аб Аршанскай бітве. А Зміцер Панкавец быў трэцім у інфармацыйным жанры за публікацыю аб фанатах БАТЭ і іх салідарнасці з Украінай.

### Кулакова асудзілі на 7 сутак

55-гадовага актывіста грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» затрымалі дома ў Мінску вечарам 8 мая. Суд Смалявіцкага раёна прызнаў Кулакова вінаватым у несанкцыянаваным пікеце 25 красавіка. Тады Кулакоў разам з паплечнікамі сустракаў расійскіх «Начных ваўкоў» з плакатам

## Апытанні на nn.by

### Якім мусіць быць беларускае войска?

| | | |
|---|---|---|
| Вайсковы абавязак мае быць усеагульным — служыць мусяць усе прызыўнікі | 189 | 21% |
| Войска мае быць прафесійным, служыць мусяць кантрактнікі | 614 | 70% |
| Войска Беларусі ўвогуле не трэба: ад каго нам бараніцца? | 78 | 9% |

Усяго прагаласавала 881.

Цікава, што ў папярэдняй такой апытанцы тры гады таму прыхільнікаў усеагульнага вайсковага абавязку было ўдвая менш. Але вайна ва Украіне памяняла думку людзей.

## Самае чытанае на nn.by за 6 — 12 мая

1. П'яны ў дыміну Захарчанка, падпалкоўнік марской пяхоты Матарола ды іншыя цуды «рускага свету» — парад у Данецку
2. Амерыканскія вайскоўцы возьмуць удзел у парадзе ў Мінску
3. Ад Рэдакцыі: у чым фальсіфікацыя гісторыі пры святкаванні Перамогі
4. Бліскучая перамога! Беларусь — ЗША — 5:2
5. Палонны немец на пероне і кроў з кетчупу: у Мінск прыбыў агітцягнік «Кветкі Вялікай Перамогі»
6. І нашым, і вашым: Лукашэнка прыляцеў у Маскву з «беларуска-георгіеўскай» стужкай на пінжаку
7. АМАП жорстка збівае баранавіцкіх фанатаў
8. Новы твёрк-скандал у Расіі: відэа новарасійскіх кадэтаў-казакаў
9. «Мой дзед — кавалер георгіеўскай стужкі, сынок» — удзельнікі святкавання 9 Мая дзеліцца ведамі пра вайну
10. АНТ зняў з эфіру фільм «Бітва за Севастопаль»

# Гібрыдная стужка ў гібрыдны час

**Аляксандр Лукашэнка не застаўся на парадзе ў Маскве, але падыграў у іншым.**

7 мая Аляксандр Лукашэнка здзівіў многіх, калі выйшаў у Маскве з трапа самалёта ў пінжаку з «гібрыднай стужкай», якая аб'яднала як георгіеўскую, гэтак і «яблыневы цвет», што сёлета актыўна прапагандаваўся ў Беларусі.

Напярэдадні свята 9 Мая стужкі ў колеры дзяржаўнага сцяга абавязалі насіць дзяржработнікаў: касірак, прадавачак, міліцыянтаў. А вось георгіеўскіх амаль што не было. Толькі прарасійскія арганізацыі, кшталту «Русі маладой», займаліся іх распаўсюдам. Нават хадзіла меркаванне, што георгіеўскія стужкі пасля вайны ва Украіне трапілі пад негалосную забарону ў Беларусі.

У Расіі георгіеўскія стужкі як сімвал перамогі запусцілі паліттэхнолагі гадоў дзесяць назад. У сучаснай Расіі перамозе ў Вялікай Айчыннай вайне адводзіцца вялікае месца. Расія хоча быць адзінай правапераемніцай той перамогі і апраўдвае той вайной сённяшнюю палітыку.



Аляксандр і Мікалай Лукашэнка з гібрыднымі стужкамі. У бацькі і сына таксама былі аднолькавыя залатыя пагоны.

Сёлета, у 70-гадовы юбілей перамогі, у Маскве ладзілі грандыёзны парад, куды збіралі прэзідэнтаў з усяго свету, дакладней, адкуль яшчэ могуць сабраць: ад Зімбабвэ да Кітая. Рабілася гэта з мэтай дэманстрацыі ўласнай сілы і велічы. А вось галоўны хаўруснік Крамля Аляксандр Лукашэнка гэтае мерапрыемства праігнараваў, аддаў перавагу параду ў Мінску. Хаця, напрыклад, у Казахстане афіцыйныя мерапрыемствы да Дня Перамогі правялі загадзя, каб на 9 мая Нурсултан Назарбаеў мог быць у Маскве.

Таму крок Лукашэнкі ацэньваўся неадназначна. Напрыклад, пракрамлёўскі палітолаг Андрэй Суздальцаў выказаў думку, што адмова Лукашэнкі наведаць парад — «гэта ўдар ніжэй за пояс для Пуціна».

Менавіта праз гэта «гібрыдная стужка» многімі разглядаецца як своеасаблівая спроба змякчыць удар, негатыўную рэакцыю на сваю адсутнасць. Бо раней нават на сустрэчах з Пуціным і Януковічам Лукашэнка быў адзіным, хто быў у стужцы беларускіх колераў, а не ў карычнева-чорнай.

Лукашэнку давялося апраўдвацца. «У адносінах Беларусі і Расіі няма рознагалоссяў, хоць камусьці хочацца знайсці ў гэтым «дохлую кошку». Можна ехаць у Маскву на святкаванне ці не ехаць, аднак вынікі Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай вайны ігнараваць нельга, роўна як і перапісваць гісторыю праз некалькі дзесяцігоддзяў», — адзначыў ён на парадзе.

Насіў «гібрыдную стужку» Лукашэнка не толькі ў Маскве, але і на парадзе ў Мінску. А разам з імі яе прычапіла да адзення ўсё найвышэйшае кіраўніцтва краіны. «Вітанне вам з Масквы ад усіх нашых сяброў, ад кіраўніцтва Расіі. Спецыяльна ўчора, позна ўвечары з'язджаючы, дамовіўся, што я ветэранам перадам ад расіянаў найлепшыя пажаданні. Са святам вас!» — сказаў Лукашэнка, ускладаючы кветкі да помніка Перамогі ў Мінску.

Вось і думай, была дохлая кошка ці ўсё ж не?

**Зміцер Панкавец**

**Хто з замежных лідараў прысутнічаў на вайсковым парадзе ў Маскве**

Гэтак жа, як і Лукашэнка, Маскву толькі напярэдадні 9 Мая наведаў прэзідэнт Узбекістана Іслам Карымаў. Дарэчы, Узбекістан адзіная краіна СНД, якая адзначае не Дзень Перамогі, а Дзень Памяці і Пашаны. Гэта было палітычнае рашэнне Карымава, які лічыць, што савецкая ўлада дарма ахвяравала жыццямі тысяч узбекаў, а краіна не акрыяла ад страт. Гэтаксама ва Узбекістане не выкарыстоўваецца тэрмін «Вялікая Айчынная вайна».

Затое прысутнічаў у Маскве прэзідэнта Казахстана Нурсултан Назарбаеў. У Астане баявы парад правялі 7 мая, а ў Душанбэ — 8 мая, каб кіраўнікі Казахстана і Таджыкістана маглі прысутнічаць на Краснай плошчы. Былі таксама прэзідэнты Туркменістана і Кыргызстана.

Прыехалі ў расійскую сталіцу лідары Азербайджана і Арменіі Ільхам Аліеў і Серж Саргсян.

З еўрапейскіх лідараў прысутнічалі ў Маскве прэзідэнт Чэхіі Зэман і прэм'ер-міністр Славакіі Роберт Фіца, але на сам парад яны не пайшлі, праводзячы ў той час перамовы.

Самым ганаровым госцем парада, якога Пуціна пасадзіў па правую руку ад сябе, быў старшыня КНР Сі Цзіньпін.

З Азіі таксама прысутнічаў прэзідэнт Індыі Пранаб Мукерджы — у Індыі галоўная асоба прэм'ер-міністр, а прэзідэнт выконвае рытуальныя функцыі.

З Венесуэлы прыехаў нябога Нікалас Мадура, а з Зімбабвэ —90-гадовы дыктатар Роберт Мугабэ.

Быў на парадзе і старшыня Дзяржаўнай рады Кубы Рауль Кастра. А вось паўночнакарэйскі лідар Кім Чэн Ын прыязджаць у апошні момант перадумаў.

Як кажуць у такіх выпадках, кампанія была не велька, але бардзо пажондна.

**Адкуль пайшлі георгіеўскія стужкі?**

У Расіі георгіеўскія стужкі як сімвал перамогі запусцілі паліттэхнолагі гадоў дзесяць назад. Ані чырвоны сцяг «саўка», ані расійскі трыкалор постсавецкія краіны не натхнялі. Расійскія спецслужбы шукалі сімвал, пад якім можна было б далучаць новыя землі. Шукалі сімвал і шукалі гістарычную падзею, выгадную ў гэтым кантэксце. У сучаснай Расіі перамозе ў Вялікай Айчыннай вайне адводзіцца вялікае месца. Расія хоча быць адзінай правапераемніцай той перамогі і апраўдвае той вайной сённяшнюю палітыку. Калісьці на вайну спісвалі савецкую беднасць. Сёння — спробы захапіць Украіну і, у перспектыве, таксама Беларусь. А ўсе, хто супраць гэтага, рэзка становяцца «бандэраўцамі» і «фашыстамі». Таму ў Маскве гэтак пампезна штогод адзначаюць 9 Мая, не шкадуюць ні грошай, ні часу.

**Крытыкаў парада прыраўнялі да здраднікаў**

Характэрна, што сёлета прарасійская пятая калона — дзяржаўныя ідэолагі прыраўноўвала крытыку парада да… здрады. Вось, напрыклад, галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка» і тэлевядучы Вадзім Гігін напісаў: «Душок калабарацыянізму, або, як казалі ў гады вайны па аналогіі з адным нягоднікам з Нарвегіі, квіслінгаўшчыны, нікуды не прапаў. Проста час іншы і ўмовы змяніліся. Тады здраднікі Радзімы ішлі ў паліцаі, здавалі яўрэяў, стралялі ў спіну сваім суграмадзянам. А цяпер іх духоўныя паследышы папісваюць артыкульчыкі, абураюцца парадамі. Па форме гэта розныя рэчы, але па змесце — два бакі адной з'явы».

Раскрытыкаваў «ліберoідную тусоўку» і «вульгарных матэрыялістаў» за стаўленне да парада і прадстаўнік Міністэрства абароны, начальнік упраўлення інфармацыі Уладзімір Макараў. Парад неацэнны, пісаў ён, «бо гэта тытанічная падзвіжніцкая праца тысяч людзей, гэта найвышэйшы маральны дух і адказнасць сучаснага пакалення абаронцаў Радзімы, гэта святая памяць пра найвялікшы подзвіг, гэта дэманстрацыя гатоўнасці надзейна забяспечыць мір на нашай зямлі».

**Цытата**

**«Сімвалічна, што мы выйгралі 7:0 у дзень 70-годдзя перамогі над фашызмам»**




Форвард нацыянальнай зборнай Расіі Ілля Кавальчук адзначыўся ў пасляматчавым каментары па выніках гульні Беларусь — Расія.

«Сімвалічна, што мы выйгралі менавіта з лікам 7:0 у дзень 70-годдзя перамогі над фашызмам. Нашым ветэранам трэба сказаць дзякуй. Дый наогул цяпер няпростая сітуацыя ў краіне, так што трэба згуртавацца і быць мацнейшымі», — адзначыў Кавальчук.

У Беларусі гэтыя словы хакеіста выклікалі абурэнне. Журналіст «Советской Белоруссіі» Сяргей Канашыц напісаў, што заўзець пасля такога за Расію ён не будзе.

## Міністр Шуневіч прымаў парад у форме камісара НКВД

Падчас парада 9 Мая дзіўным абмундзіраваннем вылучыўся міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч. Усе высокія чыноўнікі стаялі вакол Лукашэнкі ці то ў касцюмчыках, ці ў парадных вайсковых мундзірах.

Шуневіч (крайні злева) чамусьці прымаў парад у форме міліцыі НКВД 1940-х гадоў. Міністр стаяў у цёмна-сіняй гімнасцёрцы з жорсткім каўнерыкам, партупеі, галіфэ з бірузовымі лампасамі і сіняй фуражцы з бірузовым акалышам.

Форма такога ўзору была ўведзена ў 1943 годзе для супрацоўнікаў рабоча-сялянскай міліцыі НКВД СССР. Гэта не парадны варыянт.

Што за пагоны былі на Ігару Шуневічу, разгледзець магчымасці не было, але каб трымацца гістарычнай дакладнасці, міністр унутраных спраў на час парада мусіў ператварыцца ў камісара міліцыі 2 ранга: менавіта гэты чын у тыя часы адпавядаў званню генерал-лейтэнанта, якое мае Шуневіч.

**Кірыла Хілько**



# Міністр спорту купіў чатырохпакаёўку па цане, ніжэйшай за рынкавую

Пры гэтым забудоўшчык, у якім доля дзяржавы 99,18%, **збанкрутаваў**.

Дом №34 па вуліцы Янкоўскага ў Мінску ўжо заселены, але цалкам вырашыць праблемы жыхары не могуць. Падземны паркінг недабудаваны, офісныя памяшканні стаяць пустыя, бо за іх ідзе бой у судах, а пра добраўпарадкаванне двара ніхто ўжо і не кажа.

Пры ўзгадванні кампаніі «Маналітград» былых дольшчыкаў калоціць. Столькі праблем сваім кліентам стварылі! Абіраючы дом для ўкладання грошай, дольшчыкі разлічвалі на сур'ёзны падыход — усё ж акцыі кампаніі належаць Міністэрству архітэктуры і будаўніцтва. Аднак рэальнасць аказалася іншай.

Некаторыя згубілі па некалькі тысяч даляраў, у іншых страты даходзяць да дзясяткаў тысяч. Пашанцавала толькі тым, хто ўскочыў у будоўлю ў самым канцы. Сярод іх — міністр спорту і турызму, былы пажарнік Аляксандр Шамко. Зрэшты, пра ўсё па парадку.



**Аляксандр Шамко**

Нарадзіўся ў 1968 у Мінску. Скончыў Мінскі політэхнічны тэхнікум (1987), Камандна-інжынерны інстытут МНС (2000), Акадэмію кіравання (2009).

Служыў у войску (1987–1989), у органах і падраздзяленнях па надзвычайных сітуацыях (1989–2012).

Начальнік рэспубліканскага атрада спецыяльнага прызначэння МНС (2007–2008 гадах), намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях (2008–2012).

Міністр спорту і турызму (з 2012).

### Выгадная прапанова

Праектная дэкларацыя на будаўніцтва дома па вуліцы Янкоўскага з'явілася яшчэ ў 2009 годзе. Паводле плана УП «Будтэх», меркавалася засяліць 192 кватэры ў 2011 годзе. Квадратны метр каштаваў каля 3,1 мільёна рублёў, па тагачасным курсе — каля $1100. Цана была фіксаванай і ўлічвала прагнознае падаражанне будматэрыялаў.

Прапанова падавалася выгаднай. Дом быў не панэльным, а каркасна-маналітным, але не адносіўся да «дамоў павышанай камфортнасці». Гэта дазваляла людзям з чаргі на паляпшэнне жыллёвых умоваў атрымліваць ільготныя крэдыты на будаўніцтва ў ім пад 5%.

Будаўнікі адставалі ад тэрмінаў, але некрытычна. Кіраўніцтва кампаніі тлумачыла гэта недахопам рабочых. Неўзабаве стала вядомай сапраўдная прычына. У канцы 2010 года супраць гендырэктара, начальніка будаўнічага ўчастка і прараба «Будтэха» была заведзена крымінальная справа. Яны, падазравала следства, перакідвалі рабочых на ўзвядзенне ўласных катэджаў пад Мінскам.

**«Маналітград»**

Будаўнічая кампанія. Адкрытае акцыянернае таварыства, утворанае на базе УП «Будтэх». Доля дзяржавы — 99,18%.

### Адвольная даплата

Падчас валютнага крызісу вясной 2011 года будоўля стала намёртва. Зрэшты, такая самая бяда тады здарылася і з іншымі дамамі, бо банкі не пералічвалі грошы па крэдытных дамовах ва ўсёй краіне. Але калі б «Будтэх» своечасова траціў назапашаныя на рахунках грошы, дом ужо быў бы цалкам дабудаваны.

Многія дольшчыкі на той момант выплацілі ўсю патрэбную суму і чакалі ключоў.

Забудоўшчык адрэагаваў імгненна, запатрабаваўшы ад дольшчыкаў даплаты. Цана квадратнага метра без тлумачэння прычын узрастала на 36%. Лічба была ўзятая са столі. Людзі абурыліся і з дапамогай чыноўнікаў змаглі часткова «скінуць» суму даплаты.

Стратэгія паводзінаў у дольшчыкаў была рознай. Нехта выплаціў грошы, якія патрабаваў забудоўшчык, нехта пісаў скаргі.

Справа дайшла да першай намесніцы міністра архітэктуры і будаўніцтва Ірыны Архіпавай (гэта яе мужа, намесніка генеральнага пракурора Аляксандра Архіпава, пазней пасадзяць за злоўжыванне ўладай і атрыманне хабараў на 6 гадоў калоніі строгага рэжыму). Чыноўніца фактычна стала на бок забудоўшчыка: даплаціць усё ж трэба.

### Суд на баку

Атрымаўшы ліст з прапановай падпісаць дадатковае пагадненне з новай цаной, дольшчык павінен праз пэўны час даць адказ — згодны з дакументам ці не. У першым выпадку трэба даплаціць, у другім — разарваць дамову з забудоўшчыкам і атрымаць укладзеныя ў будаўніцтва грошы.

Аднак у заканадаўстве заставалася шчыліна. Некаторыя прынцыповыя дольшчыкі ігнаравалі лісты, якія рассылаў «Маналітград». А калі яны не атрымалі лістоў, то і дамову з імі разарваць было нельга.

Калі «Маналітград» выключыў гэтых людзей са спісу дольшчыкаў, яны вырашылі адстойваць свае правы. Але марна. Суд адхіліў усе патрабаванні дольшчыкаў, затое задаволіў сустрэчны пазоў дзяржаўнага забудоўшчыка. Некалькі чатырохпакаёвак ізноў сталі свабоднымі.

Тым часам прыгоды «Маналітграда» працягваліся. У сярэдзіне 2013 была заведзеная крымінальная справа супраць былога кіраўніка кампаніі Валерыя Пракудзіна. Яго падазравалі ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі — нібыта аформіў на працу знаёмага і дачку сужыцелькі, прадаставіў ім па-за чаргой службовае жыллё, якое пасля прыватызавалі і прадалі.

Некаторыя яго схемы жыхары дома выпраўляюць дагэтуль. Напрыклад, офісныя памяшканні былі прададзеныя па заніжанай фіксаванай цане, нават танней, чым квадратны метр для дольшчыкаў-ільготнікаў.

### Раз дырэктар, два дырэктар, тры… І ўсе ў турме

На месца адстаўленага дырэктара прыйшоў малады чыноўнік з Мінархітэктуры. 30-гадовы Сяргей Парменаў быў начальнікам упраўлення замежнаэканамічнай дзейнасці.

А ў канцы 2013 затрымалі ўжо яго... Парменава ўзялі на службовым месцы пры атрыманні хабару ў асабліва вялікім памеры. Апроч таго, паводле інфармацыі «Ежедневника», у матэрыялах следства былі зафіксаваныя дарагія падарункі дырэктара намесніцы міністра Ірыне Архіпавай.

Дольшчыкам давялося зноў скідвацца на заканчэнне будоўлі. Дом здаваўся ў 2013 годзе па частках, пад'езд за пад'ездам.

Чатырохпакаёўкі, вызваленыя ад несаступлівых дольшчыкаў, знайшлі новых гаспадароў вясной 2014 года. Кватэры прадаваліся ўжо ў гатовым доме — ніякіх рызыкаў недабудаванага дома. Дадатковую праектную дэкларацыю «Маналітград» не публікаваў, проста прадаваў кватэры праз свае каналы. Адным з пакупнікоў стаў міністр спорту і турызму Аляксандр Шамко.

### 1134 і 1650

Чыноўніку дасталася вялікая чатырохпакаёўка плошчай 92 м². Квадратны метр у гатовай кватэры каштаваў Шамко $1134. Цікава, што «Маналітград» нават пагадзіўся пачакаць, пакуль міністр збярэ патрэбную суму грошай. Чаму, нягледзячы на праблемны дом, гэтая цана выглядае выгаднай?

На той момант у Мінску не было ніводнай навабудоўлі, таннейшай за $1250 за квадратны метр, і гэта ў дамах, у якія можна засяляцца толькі праз год-два! А на другасным рынку сярэдняя цана складала $1650 за метр.

У такой сітуацыі забудоўшчыкі прадаюць кватэры па рынкавай цане. А вось «Маналітград», які сядзіць у даўгах, зрабіў іначай.

### Шамко патлумачыць адмовіўся

Чаму так адбылося? «Наша Ніва» даслала Аляксандру Шамку ліст з просьбай патлумачыць абставіны здзелкі. Памочнік міністра спорту Іван Русак заявіў, што Шамко даручыў нічога не адказваць на зварот.

За студзень-верасень 2014 года чыстыя страты «Маналітграда» склалі $2,2 мільёна. Расплаціцца па даўгах кампанія не можа. Найхутчэй, дольшчыкі, дамовы з якімі былі прымусова разарваныя, не атрымаюць ніякай кампенсацыі. Дзяржаўны забудоўшчык знаходзіцца на мяжы банкруцтва. Тэлефонныя нумары кампаніі не адказваюць, офіс зачынены.

**Ягор Марціновіч**

# Чаму ў Беларусі летам адключаюць гарачую ваду, а ў Еўропе не?

У Беларусі пачаліся штогадовыя адключэнні гарачай вады, якія працягнуцца да канца жніўня. Кожны дом у краіне, які падлучаны да цэнтральнага ацяплення, правядзе без гарачай вады ў сярэднім два тыдні. Чаму так адбываецца і калі мы ўрэшце забудземся на гэтыя знаёмыя аб'явы на пад'ездах? «Нашай Ніве» патлумачыў галоўны інжынер мінскіх «Цеплавсетак» Андрэй Жашко.

### Чаму?

У спадчыну ад СССР нам дасталася сістэма абагрэву, калі па трубах цячэ гарачая вада, якая падагравае халодную у цеплавых пунктах — гэта такія нізкія пабудовы ў дварах, іх усе бачылі. Дык вось, правяраць штогод трэба і абсталяванне ў цеплапунктах, і тыя трубы, што да іх вядуць. А трубы старыя — баяцца карозіі, станчаюцца. Вось менавіта для таго, каб адшукаць у іх ненадзейныя ўчасткі, мы і адключаем гарачую ваду для насельніцтва, а пасля тэстуем трубы пры падвышаным ціску. Вы зразумейце, што калі гэтага не зрабіць і зімою дзесьці не вытрымае незамененая труба — то гамон, людзі будуць у марозе сядзець не толькі без вады, але і без цяпла. І калі ў такім становішчы апынецца ўвесь горад, то тыя, хто гучней за ўсіх крычаў «хочам летам мыцца», будуць пытаць, чаму ж мы не дыягнаставалі і не выправілі праблемы ў цеплавсетках. І не заўсёды, дарэчы, вады не бывае тыдзень ці два — калі на ўчастку няма праблем і замена не патрэбна, то тэрмін прафілактыкі скарачаецца. Але бывае і наадварот, канечне, калі трэба перакладваць магістральны трубаправод, тады раскопваем зямлю і працы там амаль на месяц.

### Калі гэта скончыцца?

Тут два варыянты. Першы — замяніць металічныя трубы ў цеплавсетках на новыя, дарагія і сучасныя. Самі разумееце, што такіх грошай няма дзе ўзяць, каб зрабіць усё за адзін год ці нават дзесяць год. Працягласць цеплавсетак толькі ў Мінску — 2300 кіламетраў. Ну а ў маштабах краіны ўявіце самі! Мадэрнізацыя ў нас, канечне, праводзіцца, але да фінішу яшчэ далёка — усё скончыцца не пры нашым жыцці, не пры маім дык дакладна. Што да другога, больш верагоднага варыянта: неўзабаве ў Беларусі пабудуюць АЭС — адпаведна, электрычнасці стане багата. Таму можна будзе пераходзіць на іншыя схемы ацяплення — напрыклад, у кожным доме ставіць аўтаномную сістэму падагрэву вады, якая будзе працаваць ад электрычнасці, тады роля ТЭЦ вельмі знізіцца і сам прынцып ацяплення памяняецца.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Беларусь распрацавала ракетныя комплексы «Паланэз»

**Калі яны пройдуць выпрабаванні**, то стануць сур'ёзным фактарам стрымлівання любых суседзяў.

У мінскім парадзе 9 мая ўзяла ўдзел новая распрацоўка беларускага абаронпрама — ракетная сістэма залпавага агню (РСЗА) «Паланэз». Паводле закладзеных у айчынную сістэму ідэяў, яна ўяўляе мікс паміж дальнабойнымі «Іскандэрамі» і разбуральнымі «Смерчамі». Але самае важнае — Беларусь выробляе гэтае ўзбраенне сама. Значыць, можа на ім сама зарабіць. І, у выпадку чаго, зможа выробляць гэтае ўзбраенне ў часе ваенных дзеянняў.

Больш падрабязна аб «Паланэзах» распавёў ваенны эксперт Аляксандр Алесін.

**— Ці заўважылі вы штосьці новае ў «Паланэзах» на парадзе?**

— Паглядзеўшы яго, я пераканаўся, што «Паланэзы» вельмі падобныя да кітайскіх сістэмаў РСЗА «NORINCO AR3» — тыя ж восем транспартна-пускавых кантэйнераў нятрубкавай формы. Гэта гаворыць аб тым, што ў кантэйнерах, хутчэй за ўсё, ракеты 370 мм і 300 мм калібра. Каб вы разумелі: такім чынам аб'ядноўваюцца перавагі аператыўна-тактычных і ракет, і сістэм залпавага агню. Таму я мяркую, што «Паланэз» — гэта сімбіёз нашых і кітайскіх тэхналогій. Усё, што датычыць колавай базы, электронікі і аўтаматычных сістэм навядзення агню — гэта нашае, відавочна. А вось ракеты мы не выробляем — яны, хутчэй за ўсё, кітайскія. Кітайцы могуць паставіць нам ракеты з цвёрдапаліўным рухавіком, а мы ўжо дададзім да іх нашыя сістэмы навядзення — і атрымаецца даволі сур'ёзная зброя.

**— У чым сур'ёзнасць?**

— Сістэма навядзення далёкіх ракет не адпрацаваная. Расія і ЗША яшчэ не вырашылі гэтай праблемы. Але выглядае, што гэта ўдалося ў «Паланэзе» — Беларусь доўга над гэтым працавала.

Бо сістэмы такога кшталту патрабуюць адмысловых інерцыяльных сістэмы навядзення, гіраскопы, карэкціроўку праз GPS. Пры наўнасці гэтага «Паланэз» здольны паражаць суседнія цэлі. Значыць, захоўваецца перавага шквальнага агню РСЗА плюс дадаецца высокадакладнасць. Я б назваў гэта міксам «Смерчаў» і «Іскандэраў». Амерыканцы, дарэчы, працавалі над падобнай сістэмай, але ім удалося памясціць у РСЗА толькі дзве ракеты, а ў нас іх восем.

**— Якія перспектывы ў «Паланэзаў»? Мо мы станем іх экспартаваць?**

— На прыкладзе Украіны бачым, што сістэмы залпавага агню граюць значную ролю ў лакальных канфліктах, таму гэтую нішу чакае вельмі добрая перспектыва. Калі сапраўды ўдалося спалучыць нашы сістэмы навядзення і кітайскія дальнабойныя ракеты, то аналагаў «Паланэзу» не будзе. Ён стане сур'ёзным фактарам стрымлівання суседзяў, бо ўся цывільная і вайсковая інфраструктура ў радыусе 280 кіламетраў ад беларускай мяжы апынецца ў зоне дасягання «Паланэзаў». Гэта значыць, за некалькі хвілінаў, напрыклад, можна будзе знішчыць усе аэрадромы і вайсковыя часткі, напрыклад, па ўсёй Балтыі. Таму гэта выгадна з пункту гледжання абароны, а што да паставак — то я думаю, мы будзем прасоўваць «Паланэзы» супольна з кітайцамі, але ў «скарочанай» версіі, дзе дальнасць агню не будзе перавышаць 200 кіламетраў.

Аўтару застаецца дадаць, што няясна, ці выпрабоўваліся гэтыя «Паланэзы» ў дзеянні, ці ажыццяўляліся з іх стрэльбы. Рэч у тым, што ў самой Беларусі няма для таго прыдатных палігонаў.

**Арцём Гарбацэвіч**



# Трагедыя ў Брэсце — з-за кепскай адзнакі

**Студэнтка** выкінулася з акна інтэрната.

Цела 20-гадовай Аліны знайшлі пад раніцу 11 мая людзі: дзяўчына ляжала пад вокнамі свайго студэнцкага інтэрната. Следчыя мяркуюць, што гэта быў суіцыд. Перад смерцю Аліна была на кухні, на пятым паверсе.

Аліна прыехала ў абласны цэнтр з Жабінкі. Вучылася на 4 курсе сацыяльна-педагагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Там жа вучылася і яе старэйшая сястра. Як расказваюць іншыя студэнты, жылі сёстры разам.

У інтэрнаце кажуць, што прычынай такога ўчынку магла стаць нізкая адзнака. Вучылася дзяўчына някепска, вось і расхвалявалася з-за адной адзнакі.



Іншыя ўдакладняюць, па непацверджанай інфармацыі, што ўзнікла праблема са справаздачай па практыцы: выкладчык папракаў, што за яе нават 4 балы нельга паставіць.

12 мая дзяўчына адзначыла б 21-годдзе.

**Кастусь Матушыч**

## П'яны мінчук ступіў з трамвая пад машыну

Здарэнне адбылося ўвечары 11 мая. Кіроўца трамвая ўжо зачыніў дзверы і збіраўся ад'язджаць ад прыпынку на вуліцы Казлова (у бок Батанічнай). Але адзін пасажыр замарудзіўся і ледзь не прапусціў свой прыпынак. Ён сілай адчыніў дзверы і ступіў наперад. Праўда, крайне няўдала — проста пад колы «Таёты», якая ўжо аднавіла рух.

Абышлося без сур'ёзных траўм. Зрэшты, мужчына ўпаў у алкагольную кому. У крыві ў яго выявілі 3,5 праміле алкаголю. На наступны дзень ён апрытомнеў, але нічога не памятае пра здарэнне.

Трамвайны затор сабраў дзясяткі «вагончыкаў».

**КМ**



Трывога!

# Ва ўсёй краіне рэкламуюць гарэлку пад выглядам вады

У тэлерэкламе і на білбордах, якія ў апошнія гады сталі звыклымі, можна бачыць рэкламу пітной вады, якую вельмі цяжка знайсці ў мясцовых крамах, затое там вельмі лёгка знайсці гарэлку пад такой жа назвай, піша нам чытач Павел Магілін з Барысава.

Зразумела, гэта зусім не барысаўскае і нават не беларускае ноу-хау. Пітная вада «Налібокі» і «Сваяк» — так званыя «парасонавыя брэнды» алкагольнай прадукцыі. Адзінае афармленне ўпакоўкі (ключавымі элементамі ў такіх выпадках з'яўляюцца лагатып і назва) дазваляе павялічваць продаж гарэлкі, рэкламуючы выпушчаную малымі партыямі мінеральную ваду.

У Расіі яшчэ ў 2006 годзе забаранілі выкарыстоўваць парасонавыя брэнды для рэкламы тавараў, рэклама якіх забароненая. У Беларусі ў 2013 годзе тэлевізійная рэклама пітной вады «Сябры» прызнаная Міністэрствам гандлю схаванай рэкламай гарэлкі, што вырабляецца пад аналагічнай назвай. Тэлеканалам і рэкламадаўцу былі накіраваныя прадпісанні аб спыненні распаўсюджвання дадзенай рэкламы.

22 кастрычніка мінулага года палата прадстаўнікоў РБ прыняла ў першым чытанні законапраект аб забароне рэкламы прадуктаў харчавання пад тытунёвымі і алкагольнымі брэндамі.




Тым не менш, хоць у нас перыядычна аб'яўляюць п'янству бой, уводзяць чацвяргі цвярозасці і праводзяць іншыя мерапрыемствы ў гэтым кірунку — працягваюць рэкламаваць гарэлку проста на вуліцах.

З пункту гледжання эканамічнай мэтазгоднасці пазіцыю ўладаў, якія дазваляюць такую рэкламу, можна зразумець — вытворцы алкагольнай прадукцыі ўносяць важкі ўклад у бюджэт. А з пункту гледжання закона?

Сітуацыю пракаментаваў юрыст Алег Мацкевіч: «Закон «Аб рэкламе» вызначае любую ўтоеную рэкламу як неналежную. Неналежная рэклама не дапускаецца.

Арт. 26 Закона «Аб рэкламе» вызначае, што не дапускаецца выкарыстанне і размяшчэнне (распаўсюд) іншымі спосабамі схаванай рэкламы, гэта значыць рэкламы, якая аказвае ўздзеянне на ўспрыманне спажыўца рэкламы, што не ўсведамляецца ім, у радыё-, тэле-, відэа-, аўдыё- і кінапрадукцыі, а таксама ў іншай прадукцыі (у тым ліку на білбордах).

Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы ў адпаведнасці з нормамі названага закона з'яўляюцца органамі, якія ажыццяўляюць дзяржаўнае рэгуляванне ў галіне рэкламы, і ў межах сваёй кампетэнцыі павінны папярэджваць факты неналежнай рэкламы (арт. 5, 9)».

Хочацца пра гэта нашым уладам нагадаць.

**Павел Магілін, фота Валянціны Віктаравай, Барысаў**

# «Беларускія казакі»: небяспечныя гульні

Казацтва апошні час даволі часта трапляла ў СМІ. Хтосьці называў казакоў прарасійскай пятай калонай, хтосьці нагадвае, што гістарычна ніякіх «беларускіх казакоў» не было. Былі толькі ва Украіне і ў Расіі. «**Наша Ніва» сабрала інфармацыю** пра казацкія суполкі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі нашай краіны, і высветліла, што яны сабой уяўляюць.


**Яўген Макаранка (з абразом, наперадзе), казацкі палкоўнік ГА «Усебеларускае аб'яднанае казацтва» — даволі радыкальнай структуры.**

У адрозненне ад Расіі, казацтва і беларуская дзяржава амаль не ўзаемадзейнічаюць (у кожным разе, афіцыйна). У Расіі нават званні генералаў казакам уручае паўнамоцны прадстаўнік прэзідэнта. У нас жа казакі выдаюць сабе званні самі. За межамі казачай суполкі іх чыны не значаць нічога. Казацкі палкоўнік ні ў якім выпадку не роўня палкоўніку армейскаму ці міліцэйскаму. Казацкі чын — гэта проста адзнака для сваіх.

Чыны выдаюцца на Радах атаманаў, ці Вялікіх кругах. На гэтых кругах прысутнічаюць прадстаўнікі ўсіх суполак, якія ўваходзяць у аб'яднанне. На гэтых жа кругах прымаюцца ўзоры формы, якая ў кожнай беларускай казацкай суполкі свая, і ўзнагароды. Па вялікім рахунку, кожная суполка можа абраць сабе любы ўзор формы і любую колькасць узнагарод. Усё роўна яны вартыя чагосьці толькі ўнутры свайго аб'яднання.

У Беларусі, як і ў Расіі, казакі актывізаваліся падчас перабудовы. Раней у СССР не вельмі падтрымлівалі такую самаідэнтыфікацыю. Першыя аб'яднанні з'явіліся ў сярэдзіне 90-х. Адным з іх было ГА «Беларускае казацтва».

### «Мы глядзім вачыма прэзідэнта»

З 1995 года і па сённяшні дзень «Беларускае казацтва» ўзначальвае вярхоўны атаман, казацкі генерал Мікалай Улаховіч — былы вайсковец, выйшаў у запас у чыне палкоўніка.

Рознага роду казацкіх аб'яднанняў на Беларусі шмат. Дакладная колькасць іх невядомая. Лічаць сябе казакамі многія, але актыўных удзельнікаў «казацкага руху» не так шмат. Лічбы 10—15 тысяч — яўнае перабольшванне. Часта асобныя аб'яднанні фарміруюць тыя, хто па розных прычынах не прыжыўся ў буйнейшых казацкіх суполках. Так, напрыклад, той сотнік Марозаў з паплечнікамі стварылі беларускую «філію» Старадубскага казацкага палка, а нейкі Сяргей Новікаў разам з бацькам Уладзімірам стварылі «Міратворчую казацкую гвардыю». Яўген Макаранка сцвярджае, што «Казацкая гвардыя» ўвогуле пазіцыянуе сябе масонскай арганізацыяй. Што цікава, масонамі «Гвардыю» называе і інфармацыйны партал БПЦ sobor.by.


**Мікалай Улаховіч, кіраўнік РГА «Беларускае казацтва» — арганізацыі, што падтрымлівае Аляксандра Лукашэнку.**


**Кіраўнік ваенна-патрыятычнага цэнтра «Казацкі спас» Пятро Шапко.**

Нават на пенсіі ён мае сур'ёзную хлебную пасаду: сёння ён працуе ў «Мінскім абласным спажывецкім саюзе».

«У 1654 годзе на загад цара [Маскоўскага, Аляксея Міхайлавіча, у часе вайны Расіі з Рэччу Паспалітай] быў створаны Першы казацкі полк у Беларусі. Узначаліў яго казацкі палкоўнік, праваслаўны шляхціч Канстанцін Паклонскі. Вось з тых часоў і пайшлі казакі на Беларусі», — кажа Улаховіч.

Па яго словах, «Беларускае казацтва» налічвае сёння каля 1,5 тысячы актыўных удзельнікаў, хаця пасведчанняў за 20 гадоў дзейнасці было выдадзена каля 10—15 тысяч.

Казакі дзеляцца на дзве катэгорыі: радавыя і прыпісныя. Першыя — гэта тыя, хто мае продкаў-казакоў. Другія — тыя, хто вырашыў у казакі «запісацца», не маючы ніякіх каранёў.

«Я скасаваў розніцу паміж гэтымі катэгорыямі. Бо ў нас была праблема: радавыя ўціскалі прыпісных. Былі скандалы», — прызнаецца Улаховіч.

У лютым 2014 года двух казакоў увогуле выключылі з аб'яднання з даволі сур'ёзнай фармулёўкай: «За парушэнне дысцыпліны і статута, прапаганду сіяністкай нецярпімасці сярод казакоў, а таксама распальванне тэрарыстычнай палітыкі ў адносінах да часткі карэннага насельніцтва Рэспублікі Беларусь». Адным з іх быў сотнік Андрэй Марозаў.

«Марозаў выступіў супраць хрышчоных яўрэяў. А гэта ж вялікая група людзей, якая змяшалася даўно з беларусамі», — тлумачыць Мікалай Улаховіч.

Сам Марозаў кажа, што выказваўся супраць прыняцця грамадзяніна Ізраіля ў казацтва. Ён увогуле мяркуе, што казакі — невялікая асобная нацыя, накшталт памораў ці мардвы. Улаховіч лічыць такую пазіцыю непрымальнай.

«Мы саслоўе, а не нацыя. І ў Беларусі, і ў Расіі хапае тых, хто лічыць, што казакі пайшлі ад скіфаў, і гэта такая малая народнасць. Я супраць такой пазіцыі».

Акрамя таго, Улаховіч катэгарычна супраць любой камерцыйнай дзейнасці ў межах казацкага руху. Інакш, кажа ён, не захаваеш казацкі дух. Захаваць той самы дух дапамагае і праваслаўе. Людзей іншага веравызнання ў «Беларускае казацтва» проста не прымаюць.

Амаль кожны казак мае чын. «Гэта не воінскае званне. Што за казак без чына?» — каментуе Улаховіч.

Атрымаць чын можна за ўдзел у грамадскай дзейнасці ці за выслугу гадоў. Але пры гэтым трэба займаць адпаведную пасаду ў суполцы. То бок чын палкоўніка звычайнаму казаку, калі ён не кіраўнік раённай ці гарадской арганізацыі, дадуць наўрад ці. Пры гэтым любы чын можа атрымаць і жанчына.

Сам сябе Улаховіч называе «народным генералам». Па яго словах, свой чын ён атрымаў ад казакоў на Вялікім крузе. Акрамя яго, ёсць яшчэ два генералы. І больш не будзе.

«Мы спынілі практыку раздаваць генеральскія чыны. Вырашылі, што генерал павінен быць адзін — вярхоўны атаман», — паведамляе Улаховіч.

«Беларускае казацтва» — суполка абсалютна праўладная. Гэтага не хавае і яе кіраўнік.

«Я старшыня Беларускай патрыятычнай партыі, якая падтрымлівае прэзідэнта. Я быў членам аднаго са штабоў Лукашэнкі падчас выбараў 1994 года, — кажа Улаховіч. — І як глядзіць прэзідэнт, так глядзім і мы. На тую ж Украіну мы глядзім вачыма прэзідэнта. Наша аснова — служба дзяржаве, нягледзячы на ўласныя меркаванні».

Увогуле, Улаховіч асцярожны ў выказваннях. Нават пажаданні агучвае асцярожна.

## Структуру «Казацкі спас» правярала ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю

«Дзяржава недаацэньвае патэнцыял нашага казацтва. Мы б з радасцю бралі большы ўдзел у грамадскім жыцці», — намякае ён.

### «Бабы — беснаватыя жывёлы»

Іншае грамадскае аб'яднанне, «Усебеларускае аб'яднанае казацтва», узнікла ў 1997 годзе. На чале яго стаў казацкі генерал Мікалай Ярковіч, вярхоўны атаман.

«Ярковіч прыйшоў да нас у 1997 годзе па рэкамендацыі аднаго расійскага сябра-казака. Сам сябе прапанаваў у кіраўніцтва. Мы ад такой прапановы адмовіліся. І ён стварыў сваю суполку — «Усебеларускае аб'яднанае казацтва». Потым некаторыя з нашых казакоў перабеглі да яго», — расказаў Мікалай Улаховіч.

Дакладная колькасць удзельнікаў «Усебеларуска-

га аб'яднанага казацтва» невядомая. Але член аб'яднання, казацкі палкоўнік Яўген Макаранка, заяўляе, што ў іх каля 10 000 казакоў па ўсёй Беларусі. Увогуле, структура суполкі падобная да «Беларускага казацтва»: тыя ж чыны, тыя ж агульныя зборы казакоў на кругах. Праўда, па словах Макаранкі, без вышэйшай адукацыі афіцэрскі чын у іх не атрымаеш.

«Усебеларускае аб'яднанае казацтва» супрацоўнічае з ГА «Русь» (грамадскім аб'яднаннем расейцаў у Беларусі, якое знаходзіцца ў шчыльных зносінах з арганізацыяй «Русь молодая», цесна звязанай са структурамі, якія фінансуюць прарасійскія сілы ў краінах былога СССР). У «Русі» нават існуе нешта накшталт казацкай фракцыі. Яна мае назву «Казакі Святой Русі» і часта бярэ ўдзел у рознага роду мерапрыемствах.

Пры гэтым, калі верыць Яўгену Макаранку, «Усебеларускае аб'яднанае казацтва» падтрымлівае ідэю аб тым, што казакі — гэта асобная нацыя са сваімі традыцыямі. Казацкую форму, ці «справу», як яны яе называюць, Макаранка лічыць нацыянальным строем, такім жа, як вышыванка у беларусаў.

«Казакі — адзін з чатырох асноўных старажытных [рускіх] этнасаў. Астатнія тры — велікаросы, беларусы і маларосы», — кажа Макаранка.

Стаць казаком у гэтай суполцы можна таксама ці па нараджэнні, ці прыпісным. Прыпісныя павінны вытрымаць выпрабавальны тэрмін: ад 6 месяцаў да года. Нацыянальнасць асаблівай розніцы не мае. Галоўнае, ізноў жа, праваслаўная вера.

«Мы лічым, што каталіцкая царква — адна з сясцёр нашых, але сястра, якая збілася са шляху. Католік служыць не Богу, а яго намесніку на Зямлі — Папу Рымскаму. А мы служым Госпаду Богу! — кажа Макаранка. — Дзецям з самага нараджэння мы даносім такую думку, што яны належаць не сабе, а Богу і Айчыне».

Увогуле, па версіі Макаранкі, шмат казакоў выйшла з «Беларускага казацтва» менавіта таму, што там пачалі захапляцца «экуменічнай верай».

Карціна свету у самога Яўгена Макаранкі даволі простая. Ва Украіне ваююць «антыфашысты» (ДНР і ЛНР) з «фашыстамі». Парашэнкам кіруе ЗША. А беларускія нацыяналісты хочуць зладзіць Майдан у Мінску.

«Да нацыяналістаў мы ставімся рэзка негатыўна. Нацыяналізм — гэта ракавая пухліна грамадства. Тое, што яны нам насаджаюць, гэта ж нават не беларуская мова», — абураецца Макаранка.

У Еўропе, на яго думку, усёдазволенасць і гей-парады, і нам туды не трэба. А збіццё расійскімі казакамі ўдзельніц панк-гурту Pussy Riot казачы палкоўнік падтрымаў і расказаў чаму.

«Не блытайце жанчыну і бабу. Жанчын біць нельга. А баб — можна і нават трэба. Таму што жанчыны — светлыя істоты, роўныя мужчынам. Яны нясуць у сабе вобраз Божай Маці, — тлумачыць Макаранка. — А бабы — беснаватыя жывёлы».

Казацкага генерала Бакланава, які быў накіраваны на здушэнне паўстання 1863 года, Макаранка лічыць героем. Да Шкуро, казака, які быў афіцэрам Вермахта, у яго стаўленне неадназначнае: з аднаго боку, ён сапраўды герой, кажа Макаранка, але яго дзейнасць у Вермахце не падтрымлівае.

«Мы з вялікай павагай ставімся да генерала Вермахта фон Панвіца. Гэта быў камандзір казацкага корпуса Вермахта. Ён быў вельмі годным афіцэрам. Калі яго казакоў выдалі СССР, ён вырашыў застацца з імі, і ў выніку яго павесілі. Я разумею пра Вермахт, але нават да ворагаў трэба ставіцца з павагай, тым больш да такіх, хто паважаў казацтва», — удакладняе Яўген Макаранка.


**«Ваенна-патрыятычныя зборы» ў Гродне, з удзелам інструктараў цэнтра «Казацкі спас». «Казацкі спас» многія лічаць самай прарасійскай структурай.**

### «Ніякіх інструктараў з Расіі не было на нашых мерапрыемствах»

«Вашая суполка, так званыя незалежныя СМІ, распаўсюджвае пра нас хлусню. Нашыя матэрыялы перакручваюцца, інфармацыя мэтанакіравана скажаецца», — кажа Пятро Шапко, кіраўнік цэнтра «Казацкі спас». — Я вашай газеце не давяраю».

Менавіта «Казацкі спас» часта ладзіць моладзевыя ваеннапатрыятычныя зборы, якія потым называюць у СМІ «прарасійскімі». Сам Шапко гэта адмаўляе.

«У палітыку мы не лезем. Мы праваслаўныя людзі і патрыёты сваёй Радзімы. Мы не хочам, каб з моладзі выраслі наркаманы. Мы выступаем за нармальнае, мужчынскае выхаванне для хлопчыкаў і жаночае — для дзяўчат. «Казацкі спас» — гэта цэнтр, які дзейнічае ў межах ГА «Горад без наркотыкаў». Ваеннапатрыятычнае выхаванне моладзі — адзін з кірункаў нашай дзейнасці. Мы актыўна працуем з моладдзю, праводзім лекцыі, экскурсіі, займаемся прафілактыкай наркаманіі, — тлумачыць Шапко. — Сярод нашых членаў хапае тых, хто быў і ў «Беларускім казацтве», і ва «Усебеларускім аб'яднаным казацтве». Але людзі адтуль павыходзілі, бо нам не давалі там працаваць».

Сам Шапко прыйшоў да казацтва пасля ўцаркаўлення. Продкаў з казакоў ён не ведае, але лічыць, што казацкая кроў у яго ёсць. Увогуле, сябе і сваіх паплечнікаў Шапко называе новай хваляй казацтва. Напрыклад, чыноў у «Спасе» няма. Як няма і вярхоўнага атамана.

«Мы супраць таго, каб у сучасным казацтве існавалі гэтыя званні. Сама наяўнасць гэтых зорак, ордэнаў і медалёў ператварае казацтва ў кірмаш фанабэрыі. А казак павінен служыць. Мы бачым развіццё казацтва як мужчынскай суполкі, якая потым можа ўліцца ў сістэму тэрытарыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь», — кажа Шапко.

Трапіць у «Казацкі спас» не так проста. Можна браць удзел у мерапрыемствах, але, каб лічыцца паўнавартасным членам суполкі, трэба прайсці выпрабавальны тэрмін: ад 1,5 да 3 гадоў. Падчас яго прэтэндэнт павінен браць актыўны ўдзел у жыцці клуба. Праваслаўе — таксама адзін з важных крытэраў. Праўда, колькасць членаў «Казацкага спаса» Шапко назваць адмовіўся.

Абвінавачванні ў прарасійскай дзейнасці Пятро Шапко абвяргае, называе гэта палітычным заказам: «Ніякіх інструктараў з Расіі не было на нашых мерапрыемствах. Гэта хлусня. Нават упраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю правярала нас пасля тых публікацый. Ніякіх парушэнняў заканадаўства не знайшлі», — кажа ён.

Такія справы.

**Улад Швядовіч**

## Парашэнка звольніў пасла ў Мінску

**Міхаіл Ежаль запомніўся беларусам здольнасцю добра выпіць.**

Указ пра звальненне Парашэнка падпісаў 11 мая.

25 красавіка Пятро Парашэнка заявіў, што пасол Ежаль будзе адкліканы з Беларусі, падкрэсліўшы, што Мінск цяпер грае вельмі вялікую ролю ў рэалізацыі замежнай абароннай палітыкі і палітыкі бяспекі: «Я павінен улічваць гэтую ролю, каб забяспечыць пастаянную прысутнасць Украіны ў Мінску», — адзначыў Парашэнка.

Міхаіла Ежаля прызначыў паслом Украіны ў Беларусі ў красавіку 2013 Віктар Януковіч.

Згодна з законам аб ачышчэнні ўлады, прынятым Вярхоўнай Радай, Ежаль, які ад 2010 да 2012 быў міністрам абароны Украіны, а ад 2008 да 2010 — галоўным інспектарам Галоўнай інспекцыі Мінабароны, трапляе пад люстрацыю.



Генпракуратура Украіны выставіла яму абвінавачванне ў нанясенні дзяржаве шкоды на суму больш за 42 млн грыўняў (больш за $5 млн на момант меркаванага злачынства).

Абвінавачванні тычацца перыяду працы Ежаля на пасадзе міністра абароны ў рамках крымінальнай справы па фактах падрыву абараназдольнасці ўкраінскага войска.

Пры Януковічу і ягоных міністрах абароны направа і налева распрадавалі ўзбраенні. А калі давялося абараняць Крым і Данбас, выявілася, што большасць самалётаў не лётае, а многія танкі існуюць толькі на паперы.

Пасол Ежаль запомніўся ў Мінску найперш здольнасцю добра выпіць. На ўкраінскіх стэндах на розных выставах найчасцей частавалі гарэлкай і салам. Пасол гэта любіў.

**Сяргей Гезгала**

## Мініфармацыі вынесе папярэджанне газеце «Наше православие»

Актывіст «Маладой Беларусі» Аляксандр Галавань разам з іншымі праваслаўнымі вернікамі звярнуўся ў Міністэрства інфармацыі з просьбай праверыць выпускі выдання на адпаведнасць заканадаўству.

6 мая прыйшоў адказ за подпісам намесніка міністра інфармацыі Уладзіміра Матусевіча. У ім паведамляецца, што «Мініфармам прааналізаваны выпускі газеты «Наше православие» і цяпер вядзецца работа па вынясенні папярэджання заснавальніку выдання аб неабходнасці выканання патрабаванняў заканадаўства».

У сакавіцкім нумары газеты была надрукаваная гутарка з Маргарытай Зайдлер, грамадзянкай Германіі, якая ваюе за баевікоў «Наваросіі». Зайдлер заклікала праваслаўных узяць удзел у гэтай вайне. Многія задаліся пытаннем, ці не было ў гэтым матэрыяле «прапаганды вайны», якая падпадае пад артыкул 123 КК Рэспублікі Беларусь.

**Зміцер Панкавец**

## АНТ зняў з эфіру фільм «Бітва за Севастопаль»

Мастацкі фільм быў у праграме 9 мая, але замест яго пайшла карціна «Ваўкі» вытворчасці студыі «Беларусьфільм». На гарачай лініі АНТ адказалі, што «Бітва за Севастопаль» знятая з эфіру без тлумачэння прычын.

У той самы час фільм можна было паглядзець на расійскім Першым канале.

Палітыкі ў адмене паказу шукаць не варта: найхутчэй, стужку знялі з эфіру беларускага канала з юрыдычных прычын.



«Бітва за Севастопаль» — украінска-расійскі поўнаметражны фільм пра снайперку Людмілу Паўлічэнка. Стваральнікі фільма характарызавалі сваю працу як псіхалагічны фільм-біяграфію пра трагічны лёс жанчыны на вайне. У карціне адлюстраваны падзеі 1937—1957 гадоў і выкарыстаная песня «Океана Ельзи» «Обійми». Аднак ні мастацкімі вартасцямі, ні асаблівым псіхалагізмам, ні выдатнай іграй акцёраў стужка не вылучаецца.

**Сяргей Мікулевіч**

## Спецслужбы затрымалі галоўнага інжынера МЗКЦ

**5 мая на працоўным месцы быў затрыманы галоўны інжынер Мінскага завода колавых цягачоў Андрэй Галавач.**

Гэтую інфармацыю пацвердзілі некалькі крыніц. Як кажуць людзі, затрыманне правodзілі супрацоўнікі КДБ, а вінаваццяць чалавека ў злоўжыванні службовым становішчам.

Выканаўцам абавязкаў галоўнага інжынера ад 6 мая стаў Аляксей Рымашэўскі.

МЗКЦ — гэта «закрытае прадпрыемства», якое выпускае машыны, што выкарыстоўваюцца найбольш у вайсковых мэтах. Асноўная частка яго прадукцыі ідзе ў Расію.

**СГ**



# Кадыраў дазволіў 57-гадоваму начальніку РАУС узяць 17-гадовую другой жонкай?

Кіраўнік Чачні Рамзан Кадыраў дазволіў кіраўніку Нажай-Юртаўскага РАУС Нажуду Гучыгаву ўзяць сабе за другую жонку 17-гадовую школьніцу. Як піша «Новая газета», у эфіры мясцовага тэлебачання Кадыраў паведаміў, што ён даручыў спытаць, ці згодныя бацькі дзяўчынкі на вяселле, і высветліў, што ў іх няма пярэчанняў. Ці высвятлялі меркаванне самой дзяўчынкі, кіраўнік Чачні не ўдакладніў.



30 красавіка «Новая газета» паведаміла, што 57-гадовы Нажуд Гучыгаў вырашыў сілай узяць у жонкі 17-гадовую Хеду Гайлабіеву з сяла Байтаркі. Ён прыгразіў сям'і распраўай і паабяцаў забраць дзяўчыну 2 мая. Бо 1 мая ёй споўнілася 17 гадоў. На ўездах у сяло Гучыгаў, па дадзеных выдання, расставіў блокпасты, каб яго выбранніца не збегла. Журналістка газеты Алена Мілашына пісала, што аб гэтай гісторыі ёй стала вядома ад суседзяў сям'і Гайлабіевых.

Двужэнства забаронена заканадаўствам Расіі. Шлюбны ўзрост у Расіі — 18 гадоў. У выключных выпадках шлюб можна браць з 16 гадоў. Па сутнасці, Нажуд Гучыгаў спрабаваў узяць 17-гадовую школьніцу ў палюбоўніцы. Прычым гэта не першая яго спроба: нейкі час таму жыхары Нажай-Юртаўскага раёна вымушаныя былі вывезці з Чачні сваю дачку («Новай газеце» вядома імя гэтай дзяўчыны), каб не дапусціць яе вяселля з усясільным кіраўніком мясцовага РАУС.

У той жа дзень, 30 красавіка, Мілашынай удалося паразмаўляць па тэлефоне з начальнікам РАУС. Той, па словах журналісткі, запэўніў яе, што ў яго ўжо ёсць жонка, а пра Хеду Гайлабіеву «першы раз у жыцці чуе». Але пра тое, што ёй 17 гадоў — ведае. Аднак 7 мая высветлілася, што гісторыя дайшла да Кадырава, і ён нават у яе ўмяшаўся, даслаўшы «вернага чалавека» спытацца дазволу ў сям'і маладой. Пра гэта, паводле «Новай газеты», казалі па мясцовым радыё.

Вяселле мелася адбыцца 10 мая. На яго быў запрошаны Кадыраў.

Аднак пазней прэс-сакратар кіраўніка рэспублікі паведаміў радыёстанцыі «Гаворыць Масква», што вяселля не было. «Ніякага вяселля паміж гэтай дзяўчынай і гэтым чалавекам у Чачэнскай рэспубліцы не было. Няма прадмета размовы. Дарослая дзяўчына, якая ўжо школу скончыла, мае права і замуж выйсці, і што заўгодна», — сказаў у панядзелак прэс-сакратар Кадырава.

У сваю чаргу ўпаўнаважаны па правах дзяцей пры прэзідэнце Расіі Павел Астахаў заявіў, што «ў выпадку з чачэнскай нявестай шэраг фактаў быў скажоны, названыя няслушныя імёны і біяграфічныя звесткі».

«Галоўнае — ні бацькі (якія з'яўляюцца законнымі прадстаўнікамі дзяўчыны), ні яна сама, ні іншыя сваякі не звярталіся па дапамогу і не пацвердзілі растыражаваных дадзеных аб «прымусе, гвалце, парушэнні правоў «непаўналетняй», — дадаў Астахаў.

Рамзан Кадыраў неаднаразова заклікаў зрабіць шматжонства ў Чачні легальным. «У нас у Чачні жанчын больш, чым мужчын. Але ўсе яны павінны быць уладкаваныя ў жыцці. Шматжонства дазваляюць нашы звычаі, наша рэлігія», — казаў ён у 2009 годзе.

**СМ**




**Фотафакт**

**9 мая ў Данецку баевікі правялі парад. Ішла расійская вайсковая тэхніка, з дапамогай якой яны захапілі ва Украіны частку яе тэрыторыі. Гледачоў відэарэпартажа ўразіла тое, што кіраўнік т.зв. «ДНР» Захарчанка цягам усяго парада моцна хістаўся і меў адсутны выраз твару.**

# Міхаіл Яфрэмаў запісаў песню пра Пуціна і Залдастанава

Вот в кожу одетый
Хирург-Залдостанов,
приказ ему Путиным дан.
Боится бесстрашный
Хирург-Залдостанов,
что будет в России Майдан

— відэаролік, у якім расійскі акцёр Міхаіл Яфрэмаў спявае гэтую песню, набыў папулярнасць у інтэрнэце. Яна прысвечаная лідару матаклуба «Начныя ваўкі» Аляксандру Залдастанаву па мянушцы Хірург, увасабленню расійскага шавінізму. Спяваецца пародыя на матыў песні Барыса Грабеншчыкова «Старік Козлодоев», што напаўняе твор дадатковымі сэнсамі.

Тэкст спалучаецца з манерай выканання: мінімум эмоцый, белы халат і шапачка ці то хірурга, ці то псіхіятра:

И мозг себе лично
Хирург-Залдостанов
Своею рукой удалил.

Міхаіл Яфрэмаў працуе ў жанры палітычнай сатыры. У Беларусі няма нікога, хто рабіў бы гэта. У 2011—2012 ён вёў праграму «Грамадзянін паэт» на тэлеканале «Дождь», у якой чытаў надзённыя вершы Дзмітрыя Быкава. У 2013 каманда зладзіла перазагрузку: з'явілася праграма «Гаспадзін харошы», да якой у якасці вядоўцы і суаўтара далучыўся Вася Абломаў, а ў якасці дадатковага аўтара — паэт Арлуша (Андрэй Арлоў). Тэкст пародыі пра Хірурга-Залдастанава — Арлова.

Грамадзянская пазіцыя Яфрэмава выходзіць за межы ТВ: у 2011, у часе масавых рэпрэсій пасля выбараў у Беларусі, Яфрэмаў пісаў лісты падтрымкі палітвязням, а Лукашэнку ў відэазвароце параіў згаліць вусы. Сёння ён адкрыта выступае супраць палітыкі Пуціна.

Людзі старэйшага веку будуць памятаць Яфрэмава як вядучага тэлешоу «Чакай мяне» на расійскім «Першым канале», якое дапамагала людзям знайсці зніклых сваякоў альбо сяброў ды родных, з якімі была страчаная сувязь.



Нарадзіўся Яфрэмаў у 1963 у Маскве.

Яго бацька — легенда савецкага кіно Алег Яфрэмаў, які здымаўся ў памятных старэйшаму пакаленню фільмах «Тры тапалі на Плюшчысе», «Сцеражыся аўтамабіля».

Маці Міхаіла — актрыса Ала Пакроўская, другая жонка Алега Яфрэмава. Цікава, што па лініі маці Міхаіл Яфрэмаў — нашчадак чувашскага асветніка Івана Якаўлева (1848—1930), аўтара алфавіта і моцных падручнікаў для чувашоў.

Упершыню Міхаіл выйшаў на сцэну тэатра і зняўся ў кіно ў 13 гадоў. Папулярнасць атрымаў з фільмам «Калі я стану веліканам» (1978). Усяго на дадзены момант ён сыграў 112 роляў.

Як і бацька, ён быў жанаты не раз і не два. А — пяць. Ад розных шлюбаў ён мае трох сыноў і трох дачок. Яго дарослыя сыны Мікіта і Мікалай таксама абралі акцёрскую кар'еру.

З апошняй сваёй жонкай, гукарэжысёрам Соф'яй Круглікавай, Міхаіл Яфрэмаў жыве ўжо 11 гадоў і мае траіх дзяцей. Магчыма, формула іх сямейнага шчасця — «побач, а не разам»: на сядзібе Яфрэмавых стаяць два дамкі, адзін для мужа, другі — для жонкі.

**АА**

**Назіранне**

## Размова ля параднага пад'езду

Піша **Сяргей Ваганаў**.



Мінулы чацвер ужо хіліўся да вечара, калі жонка раптам схамянулася, што за штодзённымі справамі не паспела напярэдадні свята наведаць цырульню. У адну пазваніла, у другую, у трэцюю...

«Што, чэргі?» — запытаўся я.

«Якія чэргі?! Ведаеш, колькі каштуе пафарбаваць валасы? Амаль 400 тысяч!»

«Што ж, прыгажосць патрабуе ахвяр, — пажартаваў я. — І толькі праз ахвяры выратуе свет...»

«А твая дзе, далёка? Мо там не так дорага?»

Праз якую чвэрць гадзіны мы былі ўжо на праспекце Машэрава, ля «маёй» цырульні, так званай «сацыяльнай» — для пенсіянераў, дзе раз на месяц я стрыгу апошнія валасы. Яно так і аказалася — амаль у чатыры разы танней.

Праспект жыў сваім будзённым вечаровым жыццём: народ на шыкоўных і не вельмі аўто раз'язджаўся па сваіх спальных раёнах. Пакуль жонка была ў цырульніка, я чытаў. І не заўважыў, як праспект апусцеў, а ля машыны вырас маладзенькі баец у камуфляжы, акуратна паклаў на газон скручаны плашч і паставіў побач бутэльку з вадой. Я азірнуўся: салдаты выстраіліся ўздоўж усяго праспекта. Праз колькі хвілін у адчыненае шкло данёсся рык рухавікоў і ўпоўз мотаашлівы смурод. Я выйшаў з аўто. Раздзіраючы паветра скрыгатам тракаў па асфальце, набліжалася танкавая армада на чале з «уазікам» пад расійскім трыкалорам. За ёй яшчэ нейкія страшыдлы...

«Не турбуйцеся, — раптам супакоіў жаўнер. — Вось як тут спыняцца «Смерчи», я вас выпушчу...»

Я ўгледзеўся ў далячынь. Але «Смерчей» было не відаць. «А як яны выглядаюць?»

«Што, ніколі не бачылі? — здзівіўся жаўнер. — А ведаеце, што цяпер праязджае?»

«Ведаю».

«Ну, што, што?» — захоплена запрашаў мяне ў гульню малады баец.

«Ведаю, — паўтарыў я. — Мая пенсія...»

«Ну, гэта вы кіньце. Ваша пенсія ад бюджэту Узброеных сіл не залежыць...»

Пісьменны, падумаў я, і паглядзеў яму ў твар. Які ж прыгожы! Які ж зайздросна малады! Глядзіць упэўнена, нават усмешка хаваецца ў блакітных вачах...

«Вы па прызыве пайшлі ў войска?»

«Добраахвотна. У вайсковую акадэмію...»

Па праспекце рухаліся самаходкі, розныя там «Панцыры» і «Точкі У», ехалі «уазікі» з трыкалорамі. Але «Смерчей» усё не было...

«Апошнім часам шмат якім маладзёнам вяваць карціць...» — заўважыў я.

«Калі спатрэбіцца, паваюем!»

«А хто вызначыць, калі спатрэбіцца?»

«Ну, калі якая пагроза, агрэсія... Вас будзем абараняць, дзяржаву...»

«Парадамі?»

«Парад — гэта даніна традыцыі. І не такі ўжо цяжкі для кішэні насельніцтва. Што калі кожны дасць па пяцьсот тысяч, дык збяднее?»

«Мо хто і збяднее... А вас не бянтэжыць, што гэткія ж страшыдлы лупяць сёння па ўкраінцах?»

«Па фашыстах...»

«Па ўкраінцах... Не бянтэжыць парад поруч з агрэсарам?»

«Якім агрэсарам?! — здзівіўся курсант вайсковай акадэміі. — Рускімі? Дык мы ж з імі сябруем!»

«Калісьці і з Гітлерам сябравалі... Кожнага трэцяга праз тое «сяброўства» згубілі...»

«В-в-вы... — ён раптам пахмурнеў і пачаў трохі заікацца. — Вы са мной гэтыя р-р-размовы не в-вядзіце...»

«Чаму ж не весці? Я такі ж грамадзянін Беларусі, як і вы. Дарэчы, адкуль вы?»

«З Магілёва...»

...За размовай я і не заўважыў, як скончыўся «парадны пад'езд» і побач спыніліся ў чарзе да маршу доўгачаканыя «Смерчи». Прыкінуў, як буду выбірацца адсюль, і зноўку разгарнуў кніжку. «Пляска со смертью», Валерый Папоў, расійскі пісьменнік, вядомы яшчэ з часоў СССР. Цяжкае, трэба сказаць, чытво. Па назве нібыта дэтэктыў, насамрэч — пра смяротную трагічнасць жыцця...

Нарэшце з'явілася жонка. «Ну, як табе?» — какетліва павярнула галаву з новай прычоскай.

Сапраўды, падумаў я, прыгажосць уратуе свет. Вось каб толькі адразу і без ахвяр.

# Хадановіч і Арлоў атрымалі польскія медалі Gloria Artis

**Узнагароды пісьменнікам уручылі** на ўрачыстым прыёме з нагоды Дня Канстытуцыі Польшчы.

«Вельмі прыемна атрымаць узнагароду краіны, якую я даўно люблю, з якой у нас супольная гісторыя, супольныя героі, — пракаментаваў Уладзімір Арлоў. — У мяне выйшла тры кнігі на польскай, адна з іх атрымала ў 2010 годзе польскую літаратурную ўзнагароду, за што я ўдзячны перакладчыку Адаму Паморскаму. Што да Хадановіча, то, думаю, паўплывала тое, што ён бліскуча і плённа перакладаў Віславу Шымборску, Чэслава Мілаша, Рышарда Крыніцкага».

Медаль Gloria Artis уручаецца за заслугі перад польскай культурай, а таксама за падтрымку польскай культуры і мастацтва за мяжой, умацаванне культурных сувязяў паміж Польшчай і іншымі краінамі. Узнагарода прысуджаецца ад імя міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы. Мае тры ступені: бронзавую, срэбраную і залатую. Беларускія літаратары атрымалі срэбраныя медалі.

Акрамя іх, у розны час узнагароду атрымлівалі: балерына Мая Плісецкая, рэжысёр Кшыштаф Занусі, дырыжор Валеры Гергіеў.

**Уладзіслаў Швядовіч**



## На Мадагаскары знайшлі пірацкі скарб капітана Кіда

Падводныя археолагі знайшлі ля берагоў Мадагаскара цяжкі срэбны злітак. Па іх перакананні, скарб быў здабычай знакамітага шатландскага пірата XVII стагоддзя Уільяма Кіда.

Гісторыя капітана Кіда ў свой час натхніла пісьменніка Роберта Стывенсана на напісанне «Выспы скарбаў». Злітак вагой 50 кілаграмаў быў знойдзены на плыткаводдзі ля берагоў выспы Сэнт-Мары (Нусі-Бураха) на ўсход ад Мадагаскара.

Знаходка была перададзеная прэзідэнту Мадагаскара на спецыяльнай цырымоніі, у якой узялі ўдзел брытанскія і амерыканскія дыпламаты.

Злітак быў знойдзены камандай даследнікаў на чале з вядомым падводным археолагам з ЗША Бары Кліфардам. Ён не сумняецца, што знойдзены ім злітак захоўваўся на караблі, пабудаваным у XVII стагоддзі ў Англіі.

Аднак шэраг спецыялістаў заяўляе, што доказаў, якія пацвярджаюць сапраўднасць знаходкі, недастаткова і патрабуецца дадатковая экспертыза. Адзін з варыянтаў — адправіць узоры драўніны патанулага карабля ў Брытанію, каб вызначыць, ці сапраўды судна было пабудавана ў Англіі.

Уільям Кід (паводле іншых звестак, яго звалі Робертам) нарадзіўся ў Шатландыі каля 1645 года. У 1698 Кід напаў на армянскае судна «Кедахскі купец», якое ішло пад французскім сцягам. Капітанам «Купца» быў англічанін Джон Райт. На борце знаходзіўся груз з Усходняй Індыі: атлас, муслін, шоўк, золата, срэбра.

З-за таго, што Кід напаў на судна, якое мела дачыненне да Ост-Індскай кампаніі, супраць яго былі выстаўленыя абвінавачванні ў пірацтве. У 1701 Уільяма Кіда прызналі вінаватым і павесілі, прычым з другой спробы, паколькі ў першы раз вяроўка абарвалася. Паводле легенды, яму ўдалося схаваць значную частку нарабаванага.

**«Бі-бі-сі»**

## АМАП жорстка збіў баранавіцкіх фанатаў

3 мая падчас матча чэмпіянату краіны па футболе ў першай лізе паміж ФК «Баранавічы» і ФК «Дняпро» (Магілёў) у Баранавічах адбылася сутычка паміж АМАПам і баранавіцкімі фанатамі.

Міліцыянты хутка «паклалі» заўзятараў, а потым некаторыя з іх збівалі падлеткаў, што не аказвалі супраціву, на зямлі.

Адзін з пацярпелых баранавіцкіх фанатаў расказаў «НН» падрабязнасці.

«Мы ладзілі агульны фанацкі збор каля кас у 14:00, нас было дзесьці 40 чалавек — большасць з іх непаўналетнія. З намі былі два міліцыянты, якія нас нібыта ахоўвалі. Праз некаторы час прыехаў мікрааўтобус з магілёўскімі фанатамі, яны высадзіліся каля стадыёна і накіраваліся да нас, гукаючы сваю крычалку «Ма-гі-лёў». Нашыя «малыя» напалохаліся, што зараз будзе бойка, і «ламануліся» да брамы, якая ці то была адчыненая, ці то не вытрымала націску. І ўжо за брамаю нас атачыў АМАП і пачаў збіваць. Білі моцна: у галаву, па нагах. Потым паставілі каля сеткі і пачалі «шманаць». Пасля ўсіх завезлі ў ГАУС і прымусілі падпісаць паперку, што мы не маем прэтэнзій да дзеянняў міліцыі.

Падпісалі ўсе, акрамя аднаго: яму адбілі ключыцу і ён не мог варушыць правай рукой», — сказаў хлопец і падкрэсліў, што, імаверна, амапаўцы перабліталі іх з магілёўцамі.

На збіццё фанатаў актыўна адрэагавалі беларускія СМІ і грамадскасць. У выніку Упраўленне ўласнай бяспекі МУС пачала расследаванне інцыдэнту. І калі кагосьці з амапаўцаў прызнаюць вінаватым у перавышэнні службовых паўнамоцтваў, то ім можа пагражаць нават звальненне.

**Арцём Гарбацэвіч**




### Ананіч: Discovery здыме цыкл праграм пра Беларусь

Міністр інфармацыі Лілія Ананіч выказала пажаданне, каб дыстрыб'ютары тэлепраграм папулярызавалі Беларусь у сусветнай медыйнай прасторы. Ці ёсць гэта абавязковай умовай вяшчання ў Беларусі, не ўдакладняецца.

«Гэта той добры падыход, калі замежны канал не толькі прыносіць у краіну якасны кантэнт, збірае сваю аўдыторыю, але і прапагандуе Беларусь на ўвесь свет», — падкрэсліла яна.

Раней Беларусь з'яўлялася на Discovery ва «Уроках выкрывання Рэя Мірса». Тым часам Discovery разам з National Geographic ды Animal Planet пасля забароны вяшчання 1 сакавіка 2014 года вярнуліся толькі часткова. Тады было прыпыненае дзеянне




дазволаў на вяшчанне, выдадзеных да пачатку года — каналы мусілі атрымаць новы дазвол, але проста зніклі з кабельных сетак.

Цяпер пагляддзець Discovery, National Geographic і Animal Planet могуць абаненты «Космас-ТВ», але ў сетках МТІС ці Zala каналы адсутнічаюць.

**Аляксандр Арсёнаў**



Кіно

## Непераканаўчы жах

Слендар
**Жанр:** жахі
**Рэжысёр:** Джэймс Моран
**У ролях:** Аляксандра Брэкенрыдж, Даг Донс, Аляксандра Холдэн, Джэйк Макдорман, Крыс Маркет, Рык Ота, Грэхэм Кларк
ЗША, 92 хв.
**Адзнака:** 4

Здымачная група, якая рыхтуе сюжэт пра закінутыя дамы, трапляе ў адзін з іх, некалі раптоўна пакінуты зніклай сям'ёй. Там журналісты знаходзяць скрынку касет са сведчаннямі з'яўлення Слендара — невядомай істоты, якую можна ўбачыць толькі праз аб'ектыў відэакамеры. Пагляддзеўшы стужкі, яны становяцца ахвярамі праклёну: журналістаў пачынае пераследаваць сам Слендар, ад якога нідзе не схаваешся.

Для сваёй дэбютнай стужкі рэжысёр Джэймс Моран (адзін з прадзюсараў «Паранармальнай з'явы — 4» (2012) і «Уіджэ: дошка д'ябла» (2014)) звярнуўся да міфа, прыдуманага інтэрнаўтамі. Тонкі чалавек, або Слендармен, быў створаны ў выніку конкурсу Create Paranormal Images, праведзенага на форуме Something Awful у чэрвені 2009 года: яго ўдзельнікам прапаноўвалася з дапамогай графічнага рэдактара дадаваць на звычайныя фатаграфіі якія-небудзь звышнатуральныя дэталі. Карыстальнік форума пад нікам Victor Surge (Эрык Кнудсен) апублікаваў два чорна-белыя фотамантажы з выявай выдуманага персанажа, які пераследуе групу дзяцей, і прысвоіў яму мянушку Тонкі чалавек. Фота атрымала вялікі розгалас сярод наведнікаў форума, міф пра Тонкага чалавека займеў шмат фэнаў. Аказалася, што знайсці Слендармена можна амаль на любым здымку, дзе ёсць няяснае святло і лес. Некаторыя фанаты стварылі відэаролікі, дзе з'яўляўся гэты персанаж: высокі чалавек без твару ў афіцыйным касцюме, які апранаюць на пахаванне. Самым вядомым стаў вэб-серыял Marble Hornets пра здымкі фільма, падчас якіх праз камеру можна было ўбачыць нявыдомы сілуэт, а некаторыя ўдзельнікі здымак так ці інакш аказваліся забітымі.

Цяпер гісторыя пра Слендара выйшла на вялікі экран.




На жаль, нічым, акрамя свайго паходжання, ад модных цяпер фільмаў жахаў яна не адрозніваецца. У цэнтры сюжэта апаратар тэлеканала Майла і яго каманда. Майла апантаны здымкамі і заўжды мае пры сабе камеру, таму глядач амаль увесь час будзе пакутаваць ад быццам бы «жывых здымак». Напружанае чаканне чагосьці жахлівага і жудасныя крыкі — абавязковыя атрыбуты жанру — на месцы. Але сюжэт не вядзе ні да чаго, акрамя смерці ўсіх і кожнага, і прадказальны ад пачатку да канца.

**Настасся Уласава**

# Слова да народа і прэзідэнта на 20-ю гадавіну рэферэндуму 1995 года

Апошнія два дзесяцігоддзі XX стагоддзя перадалі нямала самых сур'ёзных нявырашаных праблем новаму XXI стагоддзю, з характэрнай для яго няспыннай інтэнсіфікацыяй глабалізацыйных працэсаў. Дзякуючы намаганням цывілізаванага свету, удалося і ўдаецца ў значнай ступені стрымліваць негатыўнае ўздзеянне такіх працэсаў на культурную разнастайнасць планеты Зямля.

Каласальныя намаганні робяць прагрэсіўныя сілы свету для захавання нацыянальных моваў як самай дарагой, аб'ектыўна нічым незаменнай духоўнай каштоўнасці кожнага народа. Менавіта з улікам гэтага сама Арганізацыя Аб'яднаных Нацый абвясціла 21 лютага кожнага года Міжнародным днём роднай мовы.

На падставе вынікаў рэферэндуму 14 мая 1995 года статус другой па ліку дзяржаўнай мовы атрымала ў нас і руская мова. Да гэтага яна фактычна панавала ў нас і рэальны статус яе быў намнога вышэйшы, чым беларускай мовы, якая па Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года з'яўлялася адзінай дзяржаўнай. Кіраўніцтва Беларусі зрабіла ўсё, каб толькі руская мова заняла панавальнае становішча ў абслугоўванні ўсіх сфераў дзейнасці чалавека.

Паслярэферэндумнае дваццацігоддзе для рускай мовы сталася па-сапраўднаму залатым. Для павышэння сацыяльнай ролі рускай мовы ў нашым краі не маглі столькі зрабіць ні царскія, ні савецкія ўлады. Умацаванне пазіцый рускай мовы ў грамадскім ужытку забяспечвалася за кошт свядомага, мэтанакіраванага недапушчэння сюды беларускай мовы, у выніку чаго на сваёй гістарычнай тэрыторыі яна зараз выконвае празмерна мізэрны ў параўнанні з рускай мовай аб'ём сацыяльных функцый.

Калі народ вялі на рэферэндум, улады абяцалі яму забяспечыць поўны парытэт у выкарыстанні дзвюх дзяржаўных моў у афіцыйным жыцці. З гэтым нічога не выйшла: беларускай мове пагражае беззваротнае знікненне. Каб не дапусціць такой нацыянальнай катастрофы, чарговае пасля 14 мая 2015 года дваццацігоддзе ўладам неабходна зрабіць дваццацігоддзем па-сапраўднаму трыумфальным для беларускай мовы.

Вельмі пажадана, каб з нагоды дваццацігоддзя майскага рэферэндуму ў першую чаргу прэзідэнт краіны, падначалены яму дзяржаўны чыноўніцкі апарат, а таксама само грамадства знайшлі магчымасць палепшыць сітуацыю з беларускай мовай. Няма на сёння больш ганаровага абавязку.

**Леанід Лыч, прафесар; Мікола Савіцкі, прафесар**

# Малы ўспамін пра вялікага чалавека

Не стала айца Аляксандра Надсана. Калі верыць (а я хачу і дужа ў гэта веру), усе мы, хто сёння жыве на зямлі, з'яўляемся злучвом паміж пакаленнямі, якія былі да нас, і тымі, што прыйдуць пасля. Мы тое жывое кола, якое звязвае ланцуг у народ, і з гэтага кола выйшаў, адышоў да папярэднікаў а. Аляксандар. Ён пайшоў да тых, хто яго чакаў: а. Язэпа Германовіча, а. Уладзіслава Чарняўскага, кс. Вінцэнта Гадлеўскага і многіх іншых папярэднікаў-беларусаў.



Мне пашчасціла пазнаёміцца з айцом Аляксандрам асабіста, пагаварыць і памаўчаць разам.

Была позняя восень, лістапад 2008 года, я прачуў пра тое, што а. Аляксандар Надсан прылятае ў Беларусь і будзе выступаць у лёхах Чырвонага касцёла. На імправізаванай сцэне з'явіўся мілы сівенькі дзядок з добрымі вачыма. Чорная марынарка, на якой былі прышпілены два значкі — сцяг і над ім крыж. Мова чыстая, самабытная, мова-песня для вуха студэнта першага курса філалагічнага факультэта.

Пачаў сваю прамову Аляксандар Надсан з падзякі за падарункі да свайго юбілею. Умела жартаваў, чым развесяліў сабраных, а пасля перайшоў да рэчаў больш важных, грунтоўных. Казаў пра тое, што Хрыстос прыйшоў на зямлю не каб яму служылі, а каб служыць іншым, пра тое, што мэта нашага зямнога вандравання — здабыццё вечнага жыцця. Таксама згадаў, што, будучы чалавекам, кожны з нас мае сваю Бацькаўшчыну, для якой ён хоча шчасця, бо Бацькаўшчына — гэта пашыраная сям'я.

Вельмі важныя, фундаментальна важныя, словы прагучалі з вуснаў а. Аляксандра: святы Павел, апостал для ўсіх народаў, паходзіў з жыдоў і казаў, што, калі б гэта было карысным для яго народа, адрокся б ад Хрыста. Зразумела, што не адрокся, бо карысным гэта не было, але наколькі моцна трэба любіць свой народ, каб сказаць такое.

Узгадаў Надсан і Францішка Скарыну. У прадмове да Псалтыра першадрукар пісаў, што выдае кнігу дзеля дабра і пажытку свайго народа, «бо з гэтага языка Бог мяне і паклікаў». «Гэтыя словы павінны быць прыкладам», — казаў Надсан. Калі Бог зрабіў нас беларусамі, то меў для нас пэўную мэту.

Так выйшла, што айцец Сяргей Гаек прапанаваў мне асабіста сустрэцца з айцом Аляксандрам. У капліцы грэка-каталікоў, што на вуліцы Арджанікідзэ, было ціха і светла. Халодны восенькі ранак быў скупым на цяпло, але досыць яркім сонцам заліваў драўляную падлогу. Сярод цішыні сядзеў сівенькі дзядок і ўзіраўся ў абраз у алтары, пад якім тлела шэрым дымком чырвоная лампадка. Я падышоў да чалавека ў чорнай сутане і размясціўся побач, колькі хвілін мы сядзелі моўчкі і ўзіраліся ў абраз. Айцец Аляксандар няспешліва, але са шчырай, добрай усмешкай паглядзеў на мяне.

— Пахвалёны Езус Хрыстус! — кажу я.

— На векі вечныя амэн, — адказаў айцец.

Мы ўсміхнуліся адзін аднаму.

— Гэта ты той самы хлапец, які хацеў са мной пагаварыць?

— Так, ойча, гэта я. Мяне завуць Дзяніс.

— У цябе добрыя вочы, Дзяніс.

— Дзякуй, — няёмка адказаў я.

Мы гаварылі пра розныя рэчы: пра маю вучобу, пра пакліканне ў жыцці, пра гісторыю і літаратуру.

— У цябе прыгожая беларуская мова, Дзяніс. Мне досыць рэдка апошнім часам даводзіцца чуць харошую беларускую мову.

— Для мяне гэта самы прыемны камплемент — пачуць такое ад Вас. Вашай мовай я насычаюся, слухаю яе з вялікім замілаваннем, нібыта акамулятар, зараджаюся ад яе.

— У цябе беларускамоўная сям'я?

— Бацька заўсёды стараўся, каб мы з сястрою гаварылі, чыталі, навучаліся па-беларуску. Прыкладам сямейнай беларушчыны быў для нас брат майго прадзеда а. Уладзіслаў Чарняўскі.

— Бач ты, во яно як. Чаму ж, ведаю я твайго сваяка. А хочаш яшчэ пра аднаго з тваіх продкаў раскажу?

— Буду бязмежна ўсцешаны, дзякуй!

— Звалі яго Францішак Чарняўскі. Пазнаёміўся я з Франукам у Лондане, ён там таксама з беларусамі працаваў, пасля ў Парыжы з беларускімі студэнтамі апекаваўся. Памёр у Амерыцы. Добры быў чалавек. Мг, дык у цябе, кажаш, славуты род, — усміхнуўся.

Мы яшчэ з паўгадзінкі гаварылі пра розныя рэчы, але святара паклікалі па пільных справах, і мы вымушаныя былі развітацца.

Сем гадоў прайшло з тэй сустрэчы. Пасля меўся запісаць айца Аляксандра на відэа, як той чытае верш для платформы Litara-A, ужо нават дамовіліся пра здымкі, мае лонданскія сябры павінны былі ў гэтым дапамагчы, але не паспелі.

Што ж, светлая памяць вялікаму беларусу.

**Дзяніс Бурко, Мінск**

# Сябры пазнаюцца ў бядзе

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Я — афіцэр запасу ўкраінскай арміі. Я ўжо не малады і не магу ўдзельнічаць у падзеях, якія разгортваюцца ў маёй краіне.

Карані маёй сям'і сыходзяць у Гомельскую вобласць. А ўжо адтуль у Житомір пераехаў мой дзед. Таму я шчыра рады той падтрымцы, якую аказваеце нам вы, беларусы.

Перад 9 Мая я вырашыў, што абавязаны неяк падзякаваць вам за тую падтрымку, якую вы аказваеце нам. Я заўважыў, што беларусы лічаць, што толькі яны асабіста, а не ўся ваша краіна падтрымлівае нас. Гэта не так. Мы адчуваем падтрымку ад усёй краіны.

17 красавіка прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка праявіў сваю палітычную волю і адмовіўся ўдзельнічаць у ганебным спектаклі, які рыхтаваў Пуцін 9 мая ў Маскве.

Як кажуць, сябры пазнаюцца ў бядзе. Калі Украіна зазнала на сабе агрэсію імперыі, беларускія браты змаглі падзяліць наш боль. Менавіта ў беларусаў мы знайшлі падтрымку. У нашу армію прыйшлі беларускія грузавікі, Мінск цалкам забяспечыў нашу тэхніку палівам. Прэзідэнт Лукашэнка падтрымаў Парашэнку падчас сустрэчы ў Мінску ў лютым.

Але мы, украінцы, павінны разумець, наколькі цяжка беларусам трымаць свой незалежны курс ва ўмовах ціску Расіі.

Наша перамога забяспечана тым, што ўвесь свет на нашым баку. Расія засталася ў вечнай ізаляцыі. У Крамля адны васалы, а сапраўдных сяброў няма.

Варта сказаць, што акрамя падтрымкі нашай справе на вышэйшым узроўні беларускай улады, дапамога ідзе ад асобных грамадзян і арганізацый. Вось нядаўна з Беларусі ў зону баёў на Данбасе паступіў новенькі рэанімабіль.

У шэрагах нашых батальёнаў актыўна ваююць беларусы. Няма таямніцы ў тым, якой небяспецы падвяргаюцца гэтыя добраахвотнікі, якія са зброяй у руках адстойваюць на фронце незалежнасці Украіны і сваёй Беларусі.

Я асабіста знаёмы і з афіцэрамі беларускай арміі, якія бачаць несправядлівасць, што творыць Расія, і не баяцца пра гэта казаць.

Яны разумеюць і тое, што беларускія ўзброеныя сілы прызначаныя не для вядзення вайны, а для яе прадухілення. Яны адкрыта кажуць, што НАТА не з'яўляецца нават патэнцыйным праціўнікам, а ў сучасных умовах адпору расійскай агрэсіі можна казаць пра саюзніцкі патэнцыял у адносінах з НАТА.

Мы, украінцы, удзячныя вам, беларусы, за дапамогу і падтрымку. Дзякуй вам!

**Сцяпан Шыла**

### Ад рэдактара

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты. У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі. Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**



**Адкрыты ліст**

# Архіепіскапу Віцебскаму і Аршанскаму Дзімітрыю

Высокапраасвяшчэннейшы Уладыка Дзімітрый!

Нам, жыхарам і ўраджэнцам Оршы, не ўпершыню даводзіцца займацца выратаваннем помнікаў гісторыі і культуры, сярод нас ёсць і краязнаўцы, і журналісты, і былыя супрацоўнікі гарадскіх музеяў.

Нам прыходзілася адстойваць тыя рэшткі культавай архітэктуры, якія перажылі вайну і страшныя для аршанскай архітэктурнай спадчыны 1960-я гады. Тады ў грамадстве зусім не была пашыраная ідэя каштоўнасці кожнага храма. Наадварот, на цэрквы, касцёлы і сінагогі глядзелі як на «перажытак» і «старызну», якія, маўляў, «толькі псуюць выгляд нашых савецкіх гарадоў».

Тады мы не маглі абаперціся на падтрымку царквы. Голас царквы ў грамадскіх спрэчках на гэтую тэму тады не гучаў. Тым не меней, мы адчувалі негалосную падтрымку з боку і святарства, і вернікаў.

Цяпер жа часы памяняліся. Многія храмы вернуты царкве. І як жа прыкра, што цяпер нам даводзіцца звяртацца ўжо да Вас, кіраўніка адной з епархіяў Беларускай праваслаўнай царквы, каб не дапусціць разбурэння святыні. Гаворка ідзе пра помнік архітэктуры XVIII стагоддзя, былы жылы будынак Аршанскага базыльянскага кляштара, дзе пазней размяшчаўся Свята-Пакроўскі праваслаўны мужчынскі манастыр і Аршанскае духоўнае вучылішча.



Вас, магчыма, знаёміў ужо раней з гэтай праблемай: у кастрычніку 2013 года мы атрымалі адказ на наш ліст да Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта, з якога вынікала, што наш ліст быў накіраваны Вам. На жаль, тады мы так і не дачакаліся ад Вас адказу. Але самае прыкрае, што мы не дачакаліся і дзеянняў.

Гэты будынак, з якім звязаныя імёны Івана Насовіча, старца Міхаіла (Ядлінскага), Міхася Зарэцкага і Васіля Шашалевіча, — адзін з нямногіх помнікаў архітэктуры стылю віленскае барока і занесены ў спіс помнікаў архітэктуры і гісторыі рэспубліканскага значэння.

Гэты будынак — прадмет мастацтва і памяць пра нашу гісторыю. Валоданне такім будынкам — гэта грамадская місія, якая накладае на ўладальніка дужа сур'ёзныя абавязкі.

Мы не разумеем, чаму па ўсім горадзе расстаўленыя скарбонкі, але гэтыя сродкі накіроўваюцца на будаўніцтва новых храмаў, у той час калі перададзеныя вашай царкве помнікі архітэктуры дзесяцігоддзямі не рамантуюцца і паступова разбураюцца.

Калі мы бачым такое, у нас разбураецца павага да царквы праваслаўнай.

Нават стварэнне дабрачыннага рахунка скончылася непаразуменнем — пры агучаных раней немалых сабраных на ім сродках страчаны яшчэ адзін будаўнічы сезон, на працягу якога можна было хаця б накрыць будынак часовым дахам. Між тым у лісце, падпісаным «адказнымі за адраджэнне Свята-Пакроўскага манастыра ў Оршы» ігуменняй Анфісай (Любчак) і манахіняй Даніілай (Цяцьковай), было чорным па белым напісана, што працы будуць распачатыя ў красавіку 2014 года.

Мы просім Вас звярнуць сваю ўвагу на гэтую праблему і сканцэнтраваць усе рэсурсы Вашае епархіі дзеля справы ўратавання і давядзення да належнага стану гэтага і іншых гістарычных помнікаў, якія ёй належаць у Оршы.

(скарочана)

**Таццяна Вароніна, Віктар Сцяпанаў, Ігар Казмерчак ды іншыя, усяго 9 подпісаў**

У Вярхоўным судзе працягваецца працэс Бекаапсаюза.

# Як масквіч Даўшан супрацоўнічаў з КДБ

Судзяць былых кіраўніка Белкаапсаюза Сяргея Сідзько, начальніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Белкаапсаюза Дзмітрыя Калодзезнага і яго намесніцу Элеанору Сізук, намесніка дырэктара фірмы «Адонісбудсэрвіс» Уладзіміра Ленскага, дырэктара фірмы «Саната-Буд» Аляксандра Драньковa, грамадзяніна Украіны Андрэя Турчанку, супрацоўніцу агенцтва па нерухомасці Ларысу Браздзецкую. Адны, згодна з абвінавачаннем, вымагалі хабар, другія — давалі, трэція — бралі. Пра пачатак працэсу «Наша Ніва» расказвала ў №15.

Цяпер дапыталі Браздзецкую, якая праходзіць па эпізодзе з вымаганнем 500 тысяч даляраў для кіраўніцтва Белкаапсаюза. Жанчына, дарэчы, каля двух гадоў была ў вышуку, пакуль вялося расследаванне.

### Армія з пасрэднікаў

Ларыса Браздзецкая нарадзілася ў 1963 у Новачаркаску. У Беларусь прыехала па размеркаванні пасля геолагаразведвальнага тэхнікума. Разведзеная. Ад 1999-га пачала працаваць у рыэлтарскіх агенцтвах.

«Я кантактавала са многімі агентамі: у нас прынята абменьвацца інфармацыяй. А ў той час [пачатак 2013] стала нерухомасць — не было продажаў. І мне патэлефанавала Вольга Варэннікава: сказала пра будынак на вуліцы Татарскай, 1200 квадратных метраў, які прадае яе знаёмы. Я пачала ўсім расказваць пра гэты аб'ект. Ім зацікавіўся агент Сяргей Церыкаў», — расказала жанчына.

Ёй паабяцалі камісійныя ($10,000), калі знойдзе кліента. Будынак прадавалі за 1,5 мільёна даляраў. Але з умовай, што траціну трэба перадаць у выглядзе задатку, астатняе ж пералічыць на рахунак Белкаапсаюза пасля падпісання дамовы.

У Церыкава акурат з'явіўся патэнцыйны кліент. Церыкаў прапанаваў выставіць цану $1,68 мільёна: маўляў, будуць таргавацца, каб было з чаго скінуць, а што застанецца звыш — пойдзе на камісійныя.

Такая вось рыэлтарская схема: Варэннікава — Браздзецкая — Церыкаў. І кожны пасярэднік разлічваў атрымаць куш. Але гэта не ўсё. Браздзецкая атрымлівала звесткі пра будынак ад Варэннікавай, тая — ад Арсена Пархімовіча (выглядае, што гэта таксама пасярэднік), Пархімовіч — ад Андрэя Турчанкі (называўся работнікам Белкаапсаюза, але не быў ім), апошні звязваўся ўжо з Дзмітрыем Калодзезным. І ў гэтай схеме кожны таксама разлічваў на грошы. Браздзецкая пасля пачала кантактаваць з Пархімовічам і Турчанкам напрамую.

Першым патэнцыйным пакупніком у лютым 2013 стаў Ілля з Масквы. Праўда, ён не мог зразумець, як перавесці 500 тысяч задатку. Тады ўзнікла схема з банкам у Рызе: грошы кладуць на рахунак, з якога прадавец зможа іх зняць толькі пасля заключэння дамовы аб продажы. Але бізнэсовец хацеў убачыць арыгіналы дакументаў на будынак перад пераводам грошай. А іх так і не паказалі. У выніку ўгода не адбылася.


Андрэй Турчанка віну прызнаў яшчэ ў пачатку працэсу.
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Падсадны масквіч

Але ўжо ў сакавіку 2013 Браздзецкай патэлефанаваў Валерый Жаўняроўскі — шукаў памяшканне пад офіс для свайго расійскага кампаньёна. З прапанаваных спыніўся акурат на будынку па Татарскай.

Тут і аказалася, што Браздзецкая ўжо была пад наглядам спецслужбаў. Андрэй Турчанка на судзе заявіў, што пасля знаёмства з матэрыяламі справы ўбачыў цікавую дэталь: у сакавіку 2013 размовы Браздзецкай праслухоўваліся. «Там гаворыцца Жаўняроўскаму і Даўшану канкрэтна: трэба даваць хабар кіраўніцтву Белкаапсаюза», — гэта да пытання пра тое, ці ведала жанчына пра хабар. Бо сама яна цяпер адмаўляе: маўляў, 500 тысяч даляраў успрымала звычайным, хоць і вялікім, задаткам.

«Яны [Жаўняроўскі і Даўшан] ведалі [пра хабар], інакш гэтых людзей проста не ўзнікла б», — лічыць Турчанка. Выходзіць, тэлефон масквіча Іллі маглі праслухоўваць. І пачулі там пра вялізны хабар, які яму прапаноўвалі даць у выглядзе задатку, зацікавіліся. Магчыма, яму прапанавалі супрацоўнічаць. А калі ён адмовіўся, увялі новых пакупнікоў. Сама Браздзецкая кажа, што Жаўняроўскі — сапраўдны бізнэсовец, Пётр Даўшан — «супрацоўнік КДБ».

Даўшан адмовіўся ад схемы з рыжскім банкам: прапаноўваў беларускі, але яго забракавалі ўжо прадаўцы. «Хоча — можам у чамаданчыку ад ноўтбука прынесці грошы. Але каб была сумленная і законная ўгода», — узгадвае словы масквіча Браздзецкая. Прапаноўваў нават паехаць у Расію, каб «адлічыць грошы». А пасля прасіў у якасці гарантыі сустрэчу са службовай асобай. Яна прайшла ў Белкаапсаюзе 4 красавіка 2013. Толькі бізнэсоўцаў папярэдзілі, каб ніякіх размоў пра грошы не было. Прымаў іх Калодзезны.

Але кантракт усё зацягваўся і рыэлтарка пачала адыходзіць ад работы. Яна ўжо не спадзявалася атрымаць свае прэміяльныя за будынак. «Летам, не помню даты, патэлефанаваў мужчына, назваўся з КДБ. Але дзе я, а дзе КДБ. Ён сказаў, што зараз пад'едуць пагаварыць. Я папрасіла выслаць позву». Мабільнік тады адключыла, а затым і згубіла, кажа. Сваю кватэру вырашыла здаваць, а для сябе ў знаёмай зняла пакой. Там яе і затрымалі ў студзені 2015. Арышты ж па справе Белкаапсаюза адбыліся яшчэ ў ліпені 2013.

У працэсе абвешчаны перапынак на нявызначаны тэрмін: Калодзезны лёг у бальніцу. Між іншым, ні ён, ні Сяргей Сідзько яшчэ не давалі паказанняў на судзе.

**Сяргей Макарэвіч**

#### Аднойчы амніставаны

Андрэй Турчанка нарадзіўся ў 1966 годзе ў Днепрапятроўску, грамадзянін Украіны. Мае вышэйшую адукацыю. У Мінску жыў у сужыцелькі. Мае з ёй непаўналетняга сына, 2004 года нараджэння.

Быў судзімы ў 1996 ва Украіне. Тады яго адправілі за краты на 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Але вызваліўся па амністыі ў 2000. Судзімасць, па яго словах, пагашаная.

Вінавацяць Турчанку ў махлярстве (ч.1 арт.209, да 3 гадоў калоніі), падбухторванні да дачы хабару (ч.2 арт.431, да 7 гадоў калоніі).

### Вышук



**Не далячыўся**

Мікалай Ляхавец, 1992 года нараджэння, знаходзіўся ў Мазырскім псіханеўралагічным дыспансеры. 26 красавіка пакінуў дыспансер, і да сённяга яго не знайшлі. Хто ведае месцазнаходжанне Ляхаўца, звяртайцеся на: (029) 232-11-11 альбо 102.



28-гадовы Сяргей Кажура расшукваецца УУС Мінаблвыканкама. Ураджэнец Маладзечна падазраецца ў забойстве (ч.2 арт. 139 КК). Хто ведае яго месцазнаходжанне, звяртайцеся на: (017) 229-04-12 альбо 102.

### Сцісла

#### Прымушаў былую жонку павесіцца

У Бераставіцы маладыя муж і жонка развяліся, ды не здолелі захаваць людскія адносіны. Жанчына заехала да былога мужа па свае рэчы, і ўсчаўся скандал. Мужчына ў выніку запіхнуў жанчыну ў багажнік і вывез у лес. Там даў ёй вяроўку, каб павесілася. Спалоханая жанчына на каленях епрошвала яе адпусціць. Толькі тады злітаваўся.

#### Напаў на 8-гадовую дзяўчынку

У Слуцку 30-гадовы п'яны напаў на 8-гадовую школьніцу і хацеў яе згвалціць. Гэта заўважыў яе аднакласнік і пачаў крычаць «Ратуйце!». Мужчыну затрымалі людзі. Яму пагражае ад 8 да 15 гадоў калоніі.

#### Злодзей забыўся дакументы

Мінчанка звярнулася ў міліцыю: спрабавалі скрасці яе «Фіят». Жанчына заўважыла ў машыне не толькі пашкоджанні, але і чужую сумку — з дакументамі 23-гадовага. Высветлілася, напярэдадні вечарам двое прыяцеляў развіталіся пасля п'янкі, а адзін з іх вырашыў знайсці машыну, каб даехаць да вёскі ў Мінскім раёне. Дзверы «Фіята» былі незамкнёныя. Аднак завесці машыну не здолеў. Забыўся, праўда, сумку з дакументамі.

#### Узяў растваральнік, залез на дах

Увечары 6 мая супрацоўнікі АМАП атрымалі паведамленне аб пранікненні невядомага чалавека на ахоўны аб'ект у Мінску. Амапаўцы падняліся на дах і знайшлі там п'янага дэбашыра з дзіўным наборам рэчаў: дзве аўтамагнітолы, частка касавага апарата і бутэлька растваральніка. Патлумачыць, як і навошта ён узлез на дах, хлопец не змог. Падазраюць крадзеж.

#### Пяцігадовае дзіця патанула ў яме

9 мая ў Віцебску ў міліцыю звярнулася маці: згубілася дзіця. Падчас пошукаў вырашылі праверыць вадаём ля прыватных дамоў, у суседнім двары. Цела хлопчыка дасталі вадалазы. Высветлілася, што мама пайшла з дому, і хлопчык застаўся з бабуляй. Абставіны здарэння высвятляюцца.

#### Кантрабандны танк

Як паведамілі ў прэс-службе Дзяржаўнага мытнага камітэта, у прапускны пункт «Урбаны» Віцебскай мытні на мяжы з Латвіяй прыбыў грузавы аўтамабіль Iveco з паўпрычэпам, у якім перамяшчаўся ў якасці тавару танк Т-34 1945 года выпуску. Кіроўца фуры прапанаваў да мытнага афармлення груз, а таксама дакументы. Аднак мытнікі палічылі такі ўвоз вайсковай тэхнікі незаконным. Танк, які перавозілі ў Расію, затрыманы. Яго ацанілі ў 636 мільёнаў рублёў.

**КМ**



# Лявон Вольскі: **«Мы яшчэ пры нашым жыцці ўбачым развал імперыі»**

**Гутарка** з легендарным рок-музыкам.

**«Наша Ніва»: Сёлета спаўняецца 33 гады аднаму з першых беларускіх рок-гуртоў — Вашай «Мроі». Які Вы былі і які сталі? Шмат змянілася?**

**Лявон Вольскі:** Калі параўноўваць сітуацыю з канцэртнай дзейнасцю пры канцы 80-х і цяпер, дык дах усё апускаецца, ціsне, ніжэй і ніжэй. Пры канцы 80-х было значна прасцей. Тады не забаранялі канцэртаў. І крый Божа, каб Камітэт дзяржбяспекі тэлефанаваў кудысьці ў рэстарацыю — проста нерэальная сітуацыя. Ці каб з аддзела культуры выканкама тэлефанавалі ў рэстаран і казалі: «У вас там будзе падрыўная дзейнасць». Немагчыма.

**«НН»: Яшчэ пра «Мрою». Вы спявалі: «Я себе застануся верным». Вы сабе засталіся верным?**

**ЛВ:** Я магу быць розны: вясёлы, душа кампаніі, малады і поўны энергіі ці стомлены, немалады, расчараваны... Але асноўныя, так бы мовіць, мае наладкі не змяняюцца. Тая песня... Мы сядзелі з Давыдоўскім і пісалі па радку. Гэта быў маніфест. Тады модна было пісаць маніфесты. І мы зрабілі яго на беларускай глебе. Калі ты нешта пішаш, ты мусіш у гэта верыць. І мы ў гэта верылі. Але ў рэстарацыях усё адно гралі. Нас нават нейкія камсамольцы запрашалі выступаць. У доме адпачынку ці пансіянаце — яны бухалі, мы гралі. Не «Мрою», канечне, але ў нас была такая тагачасная «Крамбамбуля» — рок-н-рольчык — цэлая праграма.

**«НН»: Бутусаў казаў, што не можа граць перад публікай, якая жуе.**

**ЛВ:** У гэтым і задача артыста — зрабіць так, каб людзі не жавалі, а танчылі, падпявалі і адрываліся. І мне гэта амаль заўсёды ўдаецца. Безумоўна, ёсць такая катэгорыя публікі, якую называюць «касманаўты» — гэта касмічна багатыя людзі. Ім усё роўна, што адбываецца на сцэне. Яны займаюцца сваімі справамі, паляць цыгары, п'юць «Сінгл молт», ці што яны там п'юць, размаўляюць з дамамі. Такія нам трапляліся два разы.

**«НН»: На карпаратывах?**

**ЛВ:** А дзе ж яшчэ?


НАСТАСЯ ХРАПОВІЧ

**«НН»: Вам падабаецца выступаць на карпаратывах?**

**ЛВ:** Вельмі цікавая праца. Ты знаёмішся з людзьмі, з якімі б у іншай сітуацыі наўрад ці пазнаёміўся: ад магутных айцішных карпарацыяў да гандляроў на рынку. Здараецца, што граеш для дваццаці чалавек, а іншым разам — для трох тысячаў. І ведаеце, чым усё скончацца? Шалёнымі скокамі і крыкамі «Жыве Беларусь!».

**«НН»: Пытанне да той самай песні. Там ёсць радок «Я хачу памерці на сцэне». Яшчэ хочаце?**

**ЛВ:** Хм, такое падлеткавае дэклараванне максімалісцкіх

## Самыя «касманаўты» — гэта касмічна багатыя людзі

рэчаў... Ну... Як адбудзецца, так і адбудзецца. На сцэне, дык на сцэне.

**«НН»: Я маю на ўвазе, як хочацца скончыць сваю творчасць?**

**ЛВ:** Дык нічога не хочацца скончаць. Я малюю карціны, пішу прозу. Песні пішу. Я не магу ўявіць і скончыць займацца творчасцю, бо гэта маё пакліканне, мая місія. Хутчэй за ўсё, яна скончыцца разам са мной.

**«НН»: У нас людзі часта адчуваюць сябе старэйшымі за свой век. А вы сябе на колькі адчуваеце?**

**ЛВ:** Мая прафесія не прывязаная да офіса, працоўнага дня і іншых стандартаў цяперашняй цывілізацыі. Сучасны чалавек так змагаецца за месца пад сонцам, кватэру ў Мінску, машыну, дэвайсы, стабільную грашовую працу, што гэтыя намаганні выпіваюць з яго ўсе сокі. Я пачуваюся маладым. Але досвед у мяне, дзякуй Богу, большы, чым калі ты мала разумееш і імкнешся да чагосьці абстрактнага. Хочаш поспеху, аддачы і атрымліваеш гэта ў выглядзе перамогі на чарговай «Рок-каранацыі». І гэта абсалютна вяршыня тваёй творчай дзейнасці ў нашай краіне. Я лічу за лепшае не прывязвацца да розных чартаў ды ўзнагародаў, а проста даносіць думку да людзей.

**«НН»: Чаму, па-Вашаму, не ўсім удаецца адчуваць сябе маладымі?**

**ЛВ:** Чалавек падымаецца, едзе ў заторах на працу, служыць там восем гадзін. А часам і больш, калі кар'ера патрабуе. Пасля дамоў — там жонка, дзеці, усё нервуе, затым па тэлевізары яму раскажуць пра Украіну... Ад такога жыцця чалавек не маладзее. Можа выбрацца раз на год з сям'ёй у Турцыю ці куды яшчэ яны там ездзяць.

**«НН»: А Вы дзе адпачываеце звычайна?**

**ЛВ:** Мы адпачываем незвычайна *(смяецца)*. Год таму мы праехалі з сябрамі з Барселоны да Порту на арандаванай машыне. Перад гэтым зімою сарваліся на два тыдні да прыяцеля ў Каліфорнію... Яшчэ мы часта бываем у Чарнагорыі, але калі казаць пра адпачынак, дык для аднаўлення сілаў і вёскі цалкам дастаткова.

**«НН»: Вам не здаецца, што ў цяперашні час нам не хапае такога гурту, якім была «Мроя» пры канцы 80-х?**

**ЛВ:** На жаль, цяпер мы маем гурты, якія гуляюць у чыстую творчасць. На гэтых шалях няма супрацьвагі.

**«НН»: А Brutto?**

**ЛВ:** Міхалок — вельмі таленавіты чалавек. Цяпер у яго цяжкі перыяд — я па сабе ведаю, як даецца пераход з адной фармацыі ў другую. Я б на яго месцы вытрымаў паўзу, а не адразу стартаваў з новым праектам. Але гэта Сяргей, яму хочацца ўсё хутчэй. Я да пэўнага часу яшчэ сніў, што граю на сцэне з былымі калегамі, рэпетую — гэтаму ўсё-такі было аддадзена шмат гадоў. І вельмі непрыемна, калі песні, напісаныя табою, часцяком — інтымныя радкі, спяваюць былыя паплечнікі. Таму тут я Сяргея разумею. І разумею, чаму ён псіхануў. Непрыемна, калі людзі, якія спяваюць твае песні, напрыклад, не да канца разумеюць сэнс слоў.

**«НН»: Вяртанне адносін з Вашымі былымі калегамі па N.R.M. магчымае?**

**ЛВ:** Бываюць розныя сітуацыі ў жыцці. Бывае, камусьці жыццёва неабходная дапамога. І ў такіх выпадках трэ' будзе збірацца, канечне.

**«НН»: Вы згадвалі пра Украіну. Адчуваеце цяперашнюю інфармацыйную вайну?**

**ЛВ:** Калі здароваму чалавеку ўкалоць моцную дозу наркотыку, яму будзе кепска. А наркаману — нармальна. Такая ж сітуацыя з расійскімі каналамі. Мне паўхвіліны гэтых раскрыжаваных хлопчыкаў — і ў мяне ўжо перадоз. А некаторыя людзі нармальна глядзяць увесь дзень.

**«НН»: Калі заўтра Лявон Вольскі прачнецца, а вакол — «рускі мір», якую песню ён зайграе: «Бывай, мой родны край», «Партызанскую»?**

**ЛВ:** «Партызанскую», безумоўна. Яна ж гэтаму і прысвечана, «рускаму міру». «Бывай, мой родны край» можа быць і неактуальна — «рускі мір» можа межы зачыніць адразу.

**«НН»: Як Вы бачыце далейшае развіццё сітуацыі ў нашай краіне? Лепей не будзе?**

**ЛВ:** Ні ў якім разе нельга скатвацца ў дэпрэсію. Калі мы будзем хварэць, піць і сумаваць, нічога добрага з гэтага не выйдзе. Варта верыць, што яшчэ пры нашым жыцці мы ўбачым развал імперыі. «Рускі мір» ужо дае сур'ёзны раскол. Гэта тое самае, што крычаць «гіне мова, гіне нацыя». Ды на мове цяпер больш размаўляюць, чым у маім юнацтве! Ёсць прагрэс, нягледзячы на шматгадовы ўціск.

**Гутарыў Зміцер Міцкевіч**

## Пабачыў свет дзіцячы альманах «Гарбузік»

Ён навучыць лічыць і выразаць аўтарскія выцінанкі Вольгі Бабурынай, майстраваць папяровыя замкі і рашаць касмічныя задачкі, апавядзе, як адрозніць правую руку ад левай і лёгка засвоіць новыя англійскія словы. Выйшаў альманах у бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка».

«Гарбузік» паўстаў як бацькоўскі самвыдат для беларускамоўных дзетак, — кажа рэдактар альманаха Вольга Мазурава. — Назву прыдумала Крысціна Вітушка. Нехта маляваў гульні, нехта складаў рэбусы, нехта перакладаў дзіцячыя цікавосткі з іншых краін. Жаданні і просьбы нашых маленькіх чытачоў мы чулі адразу, гартаючы разам з імі старонкі новых нумароў. Загалоўная персанажа — нязрымсліка Гарбузіка — стварыла мастачка Вольга Раманюк».

«Бацькі, аб'яднаныя сайтам «Нашыя дзеткі», шчыра захапляліся мяне, — кажа сябра рэдкалегіі альманаха і пісьменніца-казачніца **Алена Масла**. — Калі з'явілася задума выдаваць альманах для дзяцей у Саюзе беларускіх пісьменнікаў, я прапанавала «ўсынавіць» «Гарбузіка».

У каманды стваральнікаў мноства задумак: выпускі як для дашкольнікаў, так і для малодшых школьнікаў, разгорткі з настольнымі гульнямі, тэматычныя выпускі, самаробкі, галаваломкі, творы беларускіх аўтараў і пераклады сусветнай



дзіцячай класікі, энцыклапедычныя старонкі, тэсты, конкурсы...

Набыць карыснага і забаўляльнага «Гарбузіка» ўжо можна ў сталічных кнігарнях, а таксама ў інтэрнэт-крамах knihi.by і prastora.by.

Неўзабаве шукайце дзіцячы альманах і ў рэгіёнах!

**budzma.by**

## Сцісла

### «Еўрабачанне-2015»: ставяць не на Беларусь

Згодна са статыстыкай агрэгатара ставак OddsChecker, найчасцей стаўкі на перамогу на «Еўрабачанні-2015» робяцца на Швецыю, якую на конкурсе прадставіць Монс Зелмерлёў з песняй Heroes. Беларускі дуэт Юзары і Маймуна займае толькі 16 месца з 40 краін-удзельніц. «Еўрабачанне» пройдзе ў 60-ы раз з 19 па 23 мая ў Вене. Прадстаўнікі Беларусі выступяць у першым паўфінале 19 мая з песняй Time.

### Карціна Пікаса прададзена за рэкордную суму $179 млн

На аўкцыёне Christie's у Нью-Ёрку карціна Пабла Пікаса «Алжырскія жанчыны» прададзеная за рэкордныя 179,365 млн даляраў. Гэта самы дарагі твор мастацтва, калі-небудзь прададзены на таргах. Карціна была напісана мастаком у 1955 годзе і адносіцца да стылю кубізм.

### Егіпет наноў збудуе Александрыйскі маяк

Улады Егіпта ўзгаднілі праект аднаўлення аднаго з сямі антычных цудаў свету, Александрыйскага маяка. Копію збудуюць на гістарычным месцы — востраве Фарос у бухце Александрыі. Адна праблема — няма выяваў маяка часоў яго існавання. Сучасныя ўяўленні пра яго грунтуюцца на пісьмовых арабскіх крыніцах і малым макеце, знойдзеным у грабніцы фараона.

**АА**

# Лявон з Гатава і спалены Мінск

Прычынай страшнага пажару, які спустошыў Мінск у 1835-м, магла быць помста. Піша гісторык-архівіст **Зміцер Дрозд**.

180 гадоў таму, у аўторак 28-га мая 1835 года, у двары Мінскага дзявочага бернардынскага кляштара (цяпер гэта праваслаўны Святадухаўскі сабор) было тлумна: буяніў п'яны манастырскі селянін Лявон Пясляк. Спачатку ён напаў на габрэя, які запатрабаваў ад Лявона вярнуць даўгі, потым пачалася — і перайшла ў бойку — сварка з кляштарным дворнікам Ігнатам Васілеўскім. Як пасля сведчыў апошні, Пясляк «тры разы кідаўся на мяне з паленам, але я, вырываючы іх, бараніўся».

30-гадовы Лявон ужо трэці год знаходзіўся пры кляштары і быў за частыя п'янкі, скандалы і распусту на дрэнным рахунку ў ігуменні Саламеі Чаплінскай. Пясляк ужо быў неаднаразова пакараны, гэтым разам яму не сышло з рук. На наступны дзень, у сераду, паліцэйскія, пакліканыя па загадзе ігуменні, далі Лявону 60 розаг. І, напэўна, гэта падзея не засталася б у гісторыі Мінска, калі б на наступны дзень не здарылася катастрофа: 30 мая з даху Бернардынскага манастыра пры моцным ветры (які адзін з відавочцаў нават назваў «бурай»), перакідаючыся з даху на дах, пачаў распаўсюджвацца адзін з самых моцных пажараў за ўсю гісторыю горада.

8-га чэрвеня менскі губернатар князь Сяргей Давыдаў (дарэчы, ён прыехаў у Мінск на новую пасаду ўсяго за некалькі дзён да здарэння — 22 мая) стварыў спецыяльную следчую камісію.

Следчыя пачалі агляд са злашчаснага даху. І знайшлі дзіўнае. «Усе коміны цэлыя і трывалыя... Толькі з 4-га коміна ад касцёла, гэта значыць з кухні, у 5-ы бачныя чатырохкутныя дзіркі, вышынёю ад каменных сцен у два аршыны, паміж гэтымі комінамі ляжыць раскіданая цэгла і частка згарэлай дошкі. Гэта даказвае, што з 5-га ў 4-ы комін праведзеная была ўпоперак труба на драўлянай дошцы. Паміж комінамі відаць закапцелыя знакі, што ад зямлі стаяла драбіна».

Той Лявон Пясляк не толькі вёў скандальны лад жыцця, быў азлоблены і абяцаў адпомсціць за пакаранне, але і займаўся якраз тым, што завецца цяпер супрацьпажарнай бяспекай, добра ведаў уладкаванне печаў і труб і меў магчымасць пранікнуць на дах. Падчас апытання сведак 65-гадовая шляхцянка Караліна Матусевіч паведаміла, што чула, як Лявон Пясляк «выхваляўся, што вам гэта пакаранне дарма не пройдзе, не дарую ні манашкам, ні старэйшай, ні дворнікам — задаволеныя ўсе будуць». Лявон быў затрыманы, неаднаразова дапытаны, з ім было праведзена некалькі вочных ставак, але не прызнаўся ў падпале.

У ходзе следства ўсплылі цёмныя старонкі з біяграфіі Песляка. Ён прызнаўся, што «ў 1831 годзе, быўшы пасланы ад манастыра для расійскай арміі ў Царства Польскае з аўсом і сухарамі, па здачы дастаўленага, калі даведаўся, што Варшава ўпакораная і дазволена суткі яе рабаваць, то ён, маючы 20 чалавек рамізнікаў пад сваім загадам, адправіўся ў наваколле Варшавы на цэлыя суткі для рабавання, і ў нейкім панскім двары забралі пяць штук рагатай худобы. У іншых жа месцах забіралі, дзе маглі знайсці, харчовыя запасы і гарачае віно, але прытым нікога не забілі і не знявечылі... Вяртаючыся з Царства Польскага, з-за адсутнасці пісьмовага віду быў на мяжы затрыманы і дастаўлены ў горад Беласток, дзе прабыўшы два тыдні ў астрозе». Магчыма, прызнаўся Пясляк вырашыў, бо баяўся, што стане вядомы факт яго знаходжання ў турме. Але ў паліцыі быў і яшчэ адзін вельмі важкі аргумент, аб якім — крыху ніжэй.

Адкрыліся і іншыя нядобрыя падрабязнасці. Следчых зацікавіў яго, як выказаліся б цяпер, цяжкі псіхалагічны стан, які стаў прычынай штодзённых п'янак, а таксама крыніца сродкаў на бясконцыя застоллі. 40-гадовая сялянка, удава Аўдоцця Францішка, якая служыла пры кляштары, паказала, што, калі пажар трохі сціх перад заходам сонца, Лявон паклікаў яе на гарэлку ў шынок габрэя Ёселя. У карчме яна заспела Лявона з нейкім чалавекам, якога яна не ведае. Следчыя хутка знайшлі сабутэльніка. Сталяр Восіп Навіцкі паказаў, што «Лявон, быўшы п'яны моцна, паўтараў, што ён сабе зробіць смерць пасля таго, што здарылася».

Непахвальную характарыстыку Лявону дала і яго маці — сялянка вёскі Гатава Аўдоцця Мікалаеўна, 67 гадоў. Яна распавяла, што ў пятніцу пасля пажару прыйшла з вёскі да Лявона ў манастыр, і «калі папрасіла ў яго хлеба, то адказаў ёй:«Не дам табе хлеба, ідзі з Богам, Бог яшчэ ведае, што са мною будзе і калі ўбачымся». І дадаў: «Ідзі дадому, а то яшчэ скажуць, што я табе даю што-небудзь».

Пасля гэтых паказанняў сведак Лявону Песляку прыйшлося прызнацца, што «калі за п'янства і дрэнныя паводзіны быў пакараны, то, сапраўды, казаў, што гатовы пазбавіць сябе жыцця, што пасля пажару ў чацвер пад вечар хадзіў у шынок. Грошы ж меў ад продажу хлеба, што адпускаецца яму на ежу...»

Пераканаўчых доказаў віны Песляка ў падпале следчым так і не ўдалося знайсці. 27-га жніўня арыштанты Лявон і Аўдоцця былі дапытаныя апошні раз, і Лявон застаўся пры сваіх паказаннях. Мінскі павятовы суд вынес вырак: «селяніна Лявона Песляка, 30 гадоў, па прадмеце падпалу пакінуць у моцным падазрэнні і аддаць на парукі настаяцельніцы манастыра, а калі яна не пагодзіцца, саслаць у Сібір на пасяленне. За распуснае жыццё з Аўдоцціяй аддаць на царкоўнае пакаянне».

Але гэта рашэнне не было зацверджана вышэйшай інстанцыяй. Мінская Палата крымінальнага суда пастанавіла: Песляка, не аддаючы на парукі, «аддаць у вайсковую службу, а ў выпадку нязддольнасці саслаць у Сібір на пасяленне».

Быў у прысудзе і цікавы момант, які, магчыма, тлумачыць прычыну «гаварлівасці» Лявона Песляка. Як сцвярджаў Пясляк, мінскі паліцмайстар Сухаржэўскі загадаў паліцыянтам пакласці яго на зямлю і біць па пятах. Пясляк прызнаўся ва ўсіх сваіх грахах, але не ўзяў на сябе таго, у чым не быў вінаваты. А вось сам Сухаржэўскі ўжо 19-га чэрвеня падаў рапарт аб пераходзе на іншую працу. «Падпальшчык» пасля зацвярджэння прысуду адправіўся ў Сібір.

Зрэшты, былі падазраваныя і акрамя Песляка. Той жа паліцмайстар Сухаржэўскі данёс камісіі, што «падчас пажару насіліся чуткі аб падазрэнні на святароў каталіцкага вызнання, што яны быццам бы па злосці за знішчэнне манастыроў запалілі кляштар бернардынак, але гэтыя чуткі не мелі ніякай падставы».

Напэўна, калі б следства адбывалася сёння, паліцыя звярнула ўвагу на замежніка, які прыехаў у Мінск, — па поўнай выпадковасці (ці не?) якраз бізнэсам быў продаж пажарных прыладаў. Цірольскі падданы, які прыбыў з Аўстрыі, Ёган Ройскітль (або Рышкітль) — «машыніст пажарных інструментаў» даваў паказанні следчым. Бо таксама быў на тым злашчасным даху. З іх вынікала, што ён прывёз «розныя ручныя трубкі для продажу па горадзе Мінску, калі здарыўся пажар у манастыры манашак бернардынак, куды прыйшоўшы і ўлезшы на гарышча, знайшоў, што з унутранага боку гарэў дах ужо на паўтары сажні».

Невядома, ці ўдалося замежнаму купцу прадаць што-небудзь са сваіх тавараў пасля пажару, але, як пераканаўча паказвалі матэрыялы следства, мінская пажарная каманда мела патрэбу ў сур'ёзных абнаўленнях свайго абсталявання.

Мінскія пажарныя, якія былі дапытаныя, пакінулі нам каштоўныя звесткі аб вартым жалю стане супрацьпажарнай бяспекі Мінска ў 1835-м. Мешчанін Ян Стаброўскі, які працаваў фурманам пры пажарнай, паказаў, што «коней пажарных ёсць дзевяць, труб — тры, бочак — дванаццаць». Аднак «з ліку бочак дзве толькі былі прыдатныя, а іншыя паламаныя».

Камісія сабрала агульную статыстыку па ўсіх пацярпелых: «Каменных манастыроў, казённых будынкаў і драўляных разам з каменнымі дамоў згарэла ўсяго 67».

Пажар не абышоўся без чалавечых ахвяр. Засведчаная гібель дваранiна Франца Кулакоўскага, 60-ці гадоў, які задыхнуўся ад дыму, ратуючы з дому свае рэчы. Іншая ахвяра агню — Ружа Нартвінава «ў многіх месцах да косткі абгарэла», бо ляжала п'яная дома. Былі і параненыя: бернардынкі Ружа Матусевіч моцна выцяла спіну і галаву, а Ганна Корсак зламала плячо — яны скакалі з акон сваіх келляў на трэцім паверсе, калі падступіў агонь. Стражнік Андрэй Мароз «атрымаў моцны ўдар з запаленнем і значнай пухлінай галавы».

Пажар 1835 пакінуў без даху над галавой больш за 200 сем'яў, цалкам знішчыўшы 11 кварталаў, што ў значнай меры змяніла архітэктурны выгляд цэнтральнай часткі горада. Ужо 1-га верасня імператар выдаткаваў 25000 рублёў на бязвыплатную раздачу пацярпелым і 175000 рублёў на аднаўленне жытла з беспрацэнтнай растэрміноўкай на 12 гадоў. Акрамя таго, па губерні было сабрана ахвяраваннямі 18500 рублёў. Але ўсё гэта быў мізер, бо агульная сума шкоды, нанесенай пажарам Мінску ў 1835 годзе, склала гіганцкую суму, перавысіўшы мільён рублёў.

Ці быў вінаваты ў гэтым Лявон Пясляк? Хто ведае, яго след згубіўся ў Сібіры.

**Зміцер Дрозд**

гісторык-архівіст, аўтар кнігі «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Вышаў на волю ў жніўні 2011.

**Чытайце на nn.by**



**Беларускамоўны брытанец: «Я думаў, што тут вельмі дзікая і мілітарызаваная краіна»**

# Дзед Ягор

25 гадоў таму, якраз на Радаўніцу, памёр мой дзед Ягор. Гэты здымак зроблены ў 41-м — калі ён ужо атрымаў звестку, што ягоная 28-гадовая жонка (мая бабка) на трэці тыдзень вайны загінула ад асколка, пакінуўшы траіх дзяцей (малодшай было дзевяць месяцаў, старэйшай — маёй маці — пяць гадоў).

Дзед усю вайну прайшоў шафёрам на палутарцы, цягаў «саракапяткі» (такімі ж «саракапяткамі» камандаваў і лейтэнант Быкаў). На салдацкім жаргоне іх называлі «Смерть врагу — п...ец расчёту», маючы на ўвазе, што па іх нямецкая артылерыя біла найперш.

Дзіўным чынам праз дзесяцігоддзі мне давялося служыць у ракетным дывізіёне, які пасля пуску ракеты быў бы зазіленгаваны і знішчаны на 5—7-й хвіліне.

У дзяцінстве кожнае лета я праводзіў у яго ў вёсцы пад Магілёвам (а не ў «Артэку», як заяўляў з трыбуны ВС дэпутат Лукашэнка).

Дзед не меў адукацыі. Зусім. Ну, якія тры класы. Затое актыўна наведваў калгасную бібліятэку, і, напрыклад, Джона Апдайка, які быў у нашай універсітэцкай праграме, я ўзяў з ягонай шафы. Я шмат яму пісаў — і з Віцебска, і з Мінска, і са студэнцкіх будатрадаў, і з войска — і дасылаў нейкія свае публікацыі.



У 96-м (дзеда ўжо не было), калі мы з Пазняком папрасілі палітпрытулак у ЗША, на тэлерадыё пачалася масіраваная кампанія нашага цкавання. Апагеем былі словы Лукашэнкі на сустрэчы з кіраўнікамі СМІ, што мы — ворагі народа. Наш народ добра памятае, што рабілі з раднёй ворагаў народа. Мая цётка паехала ў вёску і, сабраўшы ўсе мае лісты (сотні лістоў), вынесла іх у агарод і распаліла вогнішча. Тады я пакрыўдзіўся, а цяпер разумею, што зрабіла яна правільна. Добра, што лісты тыя ніхто ніколі не прачытае: яны былі адрасаваныя толькі дзеду.

**Сяргей Навумчык**



## Святлана Куль

Сябры мае, мо ёсць такі між вас,
Хто скажа нумар — пазваніць да Бога,
Адзін званок — мне не патрэбна многа,
Я з ім хачу дамовіцца пра час.
Ён там вядзе падлік маіх гадоў,
Пазначаны пачатак і прыстанак,
Я ночы памяняць хачу на ранак,
На веснавы, у квецені садоў.
Пакуль ідзе да небасхілу шлях
Мне б ночы замяніць на ранкі мая.
За небасхілам ранкаў не бывае.
А спаць змагу і потым — на кладах.

**21.04.15.**

# Юрась Пацюпа: Да сямі гадоў я не чуў аніводнага рускага слова і цяпер адчуваю сябе апошнім магіканінам

**50 гадоў** — гэта ўзрост, калі і вынікі нейкія хочацца падвесці, і многія рэчы «бачацца», нібы ты азірнуўся. Гутарка з Юрасём Пацюпам — унікальным паэтам і граматыкам.



**Калі мяне спрабаваў вербаваць КДБ, я перапыніў іх фразаю: «Я не змагу пісаць вершы, калі буду жыць падвоеным жыццём»**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Дзіця змарнуеце!»**

**— У чалавеку закладзеныя гены, але фармуе яго асяроддзе. Што паўплывала на Юрыя Пацюпу?**

— Усё ўплывала... У свой час і па-свойму! Але вёска Дамэйкі, што пад Лідаю, дзедаў хутар, бо вёска разбітая на хутары, — уплываў найболыш. Дамэйкі вызначылі ўвесь мой далейшы жыццёвы шлях. Нездарма кажуць, чалавек як асоба фармуецца да пяці гадоў. У мяне там прайшло маленства. З года да сямі. Бабуля, як толькі мне споўніўся год, заявіла бацьком: «Дзіця змарнуеце!» І забрала мяне да сябе. З гэтага ўсё і пачалося. Я не ведаў, што такое дзіцячы садок. Маімі выхавальнікамі былі дзед, баба ды прабаба. Асабліва прабаба. І прырода — бясконцыя палі, вялізны сад, лясок пры хаце, традыцыйны лад жыцця... Вось такое дзядзькаванне! Да сямі гадоў я не чуў аніводнага рускага слова (не чуў і мацюкоў) — толькі мясцовы дыялект. Я і цяпер магу скласці дыялектны слоўнік Лідчыны з памяці (што, зрэшты, і раблю пры нагодзе). Так што беларуская мова родная для мяне не намінальна, а з самых вытокаў. Другая мова, якую я пачуў у сваім жыцці, была польская. А расейская — толькі трэцяя. Можа, гэтак і нясціпла казаць, але сёння я адчуваю сябе апошнім магіканінам. Маё пакаленне, і нават старэйшыя за мяне людзі (пра малодшых і не гавару!), ведаюць народную мову, у лепшым разе, — фрагментарна. Гэта засмучае, але і падгарашчвае. Бо ёсць адказнасць: калі я не данясу таго, што ведаю, што ў свой час неслі Ян Станкевіч, Ян Скрыган, ад сваіх дзядоў, як я ад сваіх, то так яно і занікне, і беларуская мова шмат страціць ад сваёй самабытнасці.

**Чайка, Кудош, Кухта**

**— Раскажы трохі больш пра сваіх лідскіх дзядоў і бабаў.**

— Дзед, Чайка Браніслаў, і баба, Чайка Марыя (у дзявоцтве Кудош), прабаба Юзэфа Кудош (у дзявоцтве Кухта) — гэта мае продкі па кудзелі і мае першыя выхаванкі. Хто яны? Простыя беларускія сяляне-католікі, з моцнымі сантыментамі да польскай культуры, што, прызнаюся, і мяне ў свой час не абмінула. У католікаў вельмі высокае пачуццё самадысцыпліны, стрыманасці, а гэта выхоўвае годнасць і адказнасць за ўчынкі. Калі ўсе гэтыя якасці акрэсліць адным словам, то найлепш падышло б — шляхетнасць. Вядома, як і ў многіх іншых беларусаў, у нашым родзе была шляхта: дзявочае прозвішча маёй прапрабабы, Юзэфінай маці, Карловіч, яна была шляхцянка. (Цікава б спраўдзіць, ці няма там якога сваяцтва з Янам Карловічам, бо геаграфічна ўсё сходзіцца.) Але не гэта галоўнае. Я маю на ўвазе шляхетнасць як норму жыцця, тое, што высока цанілася ў Дамэйках, да чаго ўсе імкнуліся.



Мае продкі былі з заможных сялян, аднак асновай іх дабрабыту была не хітрасць, як цяпер модна, не сквапнасць, не прыстасавальніцтва, а праца і набожнасць. Менавіта працаю і набожнасцю, вернасцю дзядоўскай традыцыі яны дасягалі найбольшых вышынь, сапраўднай арыстакратычнасці. А тыя, хто шукаў крывых і лёгкіх дарог, не шанаваліся і рана ці позна ішлі, як у нас казалі, у сабачую скуру, збіваліся з тропу.

**У католікаў высокае пачуцце самадысцыпліны**

У дзеда былі яшчэ два браты: старэйшы, Ян, вывучыўся за сталяра, сярэдні, Міхась, — за шаўца, а дзед меўся быць кавалём, але не паспеў. Надышла вайна, двух старэйшых братоў забралі ў польскае войска, а дзед быў замалады, ён застаўся на гаспадарцы. У выніку старэйшы брат загінуў, сярэдні — трапіў у палон, тройчы ўцякаў, пакуль не атрымаў у пакаранне канцлагер, па вайне — асеў ва Уроцлаве. Прыйшлі калгасы — дзед стаў калгаснікам, далучылі зямлю да птушкафабрыкі — рабочым птушкафабрыкі.

Баба Маня ўсё жыццё прабыла хатняй гаспадыняй, разам са сваёй маці, Юзэфай, гадавала мяне і брата.

Прабаба Юзэфа была выдатнай апавядальніцай, ведала шмат казак, у Першую сусветную вайну, яшчэ дзяўчынкай, трохі вывучыла нямецкую мову. Перш чым нешта нам апавесці: пыталася: «Што вам расказаць, праўду ці байку?» Калі байку, то мелася на ўвазе казку. Калі праўду, то нешта з перажытага: з уласнага маленства, пра вайну або эпізод з Бібліі.

Біблійныя эпізоды ў яе перамешваліся з апакрыфічнымі народнымі сюжэтамі. Пакуль падрос — амаль усё Евангелле я ведаў у прабабіным пераказе. Ад дзеда таксама шмат чаго пачуў, асабліва з гісторыі.

Баба Маня была песенніцай, ад яе, ужо ў студэнцкія гады, я паспеў запісаць крыху песень і прыпевак.

Вы запыталіся пра маіх лідскіх дзядоў, таму пра іх і расказваю. Сапраўды, я рос у іх на воку. Але ніколі не забываюся і сваіх касцюковіцкіх продкаў па мячы: дзеда Фёдара, бабу Вольгу. Нямала ў мяне і ад іх, кажуць, дзедаў брат Міхей любіў гаварыць рыфмаванымі экспромтамі, а дзед, былы партызан, палітрук роты, на памяць ведаў усю «Новую зямлю» Якуба Коласа. У маленстве мяне вельмі смяшыла, калі дзед даводзіў, што Капернік — беларус. Пісьменнік Іван Чыгрынаў слаў дзеду Фёдару, як быламу партызану і свайму земляку, віншавальныя паштоўкі. Між іншым, адзін з герояў Чыгрынава мае прозвішча Пацюпа.

**— Маленства — што ад іх засталося ў памяці найбольш?**

— Вельмі любіў, як дзед прыязджаў з работы на возе, запрэжаным рыжым канём, прывозіў гасцінцы, а потым мы з братам ляжалі ў возе на свежай скошанай траве і глядзелі ў неба. Яскрава помню летнюю пару, калі да нас прыязджалі сваякі з Польшчы. Асабліва хораша было ўночы: свечачка парасчыняныя вокны і, як павар'яцелыя, стракочуць конікі. Здавалася, лету і шчасцю не будзе канца.

**«Навукі і сумленнасці»**

**— Што ў табе засталося ад бацькоў? Хто яны былі? Дзе яны цяпер?**



**Бацькі Віктар і Галіна, 1963 год.**

**Мой бацька казаў: «Я большы камуніст, чым тыя, хто ў партыю лезе»**

— Бацька, Віктар Пацюпа, прыехаў вучыцца ў Полацкі лясны тэхнікум з Касцюковіцкага раёна, мама, Галіна Чайка, — з Лідскага. Там, у Полацку, калі яны былі яшчэ студэнтамі, я і нарадзіўся. Мо таму ў мяне цэлы век і вучуся. Два рэгіёны Беларусі сустрэліся ў трэцім, і з кожным я адчуваю пэўную повязь.

Мае бацькі цэлы век працавалі інжынернымі работнікамі ляснoй гаспадаркі. Кажуць, нібыта я не пайшоў іх дарогаю, але гэта не зусім так. Прырода, лес — душа маіх вершаў. Я адчуваю, што працягваю справу бацькоў у вершах. І наагул, не бачу без прыроды паэзіі. На жаль, я быў яшчэ школьнікам, калі бацька загінуў на паляванні. Мама ўсё сваё жыццё пасля смерці бацькі прысвяціла сваім дзецям, мне і брату. Цяпер жыве, як і раней, у Азёрах, рэгулярна ходзіць у касцёл. Яна, як і бацька, вымагала ад мяне дзвюх рэчаў: навукі і сумленнасці. Гэтага было дастаткова. Мае бацькі шчыра аддавалі сябе рабоце і ніколі не дбалі пра кар'еру, узнагароды. Не былі ў партыі, але і не ганілі савецкай сістэмы. Я ніколі не чуў, каб яны ўхвалялі поспех,

**«Ішлі ў сабачую скуру»** = трацілі маральныя арыенціры (выраз з Лідчыны)

здабыты подласцю, хцівасцю, хлуснёй. Бацька казаў: «Я больш камуніст, чым тыя, хто ў партыю лезе». Г.зн. ён шанаваў саму ідэю камунізму, але партыйны кар'ерызм яму быў агідны. Мама з першага класа стала купляць мне кнігі. Артыкулы з часопісаў пра мастацтва, рэпрадукцыі — таксама збірала і аддавала мне. Патроху я так захапіўся кнігамі, што чытаў крадком нават на ўроках. А цяпер кніг у мяне так шмат, што няма дзе ўсе захоўваць, і маму гэта ўжо не вельмі цешыць.

### У войску я выпрацаваў тэорыю моцнай асобы

**— Сталенне. 14 гадоў, 15 гадоў, 16... Гэта было як, калі і чаму? За што цяпер сорамна?**

— У мяне было познае сталенне. Усе мае аднакласнікі бегалі на танцы, а я прынцыпова ігнараваў. Усе каштавалі віно, гарэлку, а я пастанавіў зусім не піць. На выпускным мяне так і не ўгаварылі выпіць. А сорамна было тады, калі не мог даць адпору, калі баяўся, таму ўсімі сіламі стараўся перамагчы гэтае пачуццё. У Лідзе, помніцца, хуліганы ў кінатэатры паабяцалі пабіць, дык я наўмысна не сеў у аўтобус, пайшоў пехатою.

Цяжэй было ў войску, там сістэма ціску адладжаная ідэальна. Менавіта ў войску я выпрацаваў тэорыю моцнай асобы, паводле якой падзяліў людзей на слабых, якія не могуць даць адпору, сярэдніх, якія могуць адбараніць сябе, і, урэшце, наймацнейшых, якія могуць узняцца над уласнымі слабасцямі дзеля іншых людзей. Пазней, у студэнцкія часы, гэтая тэорыя ледзь не прывяла мяне да жыццёвага краху. Толькі тады я зразумеў, што нешта тут не тое і сказаў сабе: «Мне ўсё роўна, моцныя я ці слабы. Галоўнае — гнуць сваю лінію».

Я ўдзячны ўсім сваім настаўнікам, але найбольш уплыў на мяне зрабіла настаўніца рускай мовы, Рудава Святлана Васілеўна. Яна навучыла пісаць з фантазіяй і любоўю, ёй нельга было здаць убогую адпіску ў якасці школьнага сачынення. Яна ж падтрымала і ўхваліла мае першыя паэтычныя спробы. Тыя паэтычныя спробы былі рэдкія, аж пакуль я ў дзясятым класе па вушы не закахаўся ў дзяўчыну з сёмага класа. Яшчэ раней, у пятым класе, калі гэтая дзяўчынка вучылася ў другім і гуляла на перапынках з сяброўкамі, я не мог адвесці ад яе вачэй. У пятым класе я і думаць не думаў пра каханне, але нешта няўлоўнае, нейкая грацыя прымушалі стаяць і ўзірацца. З закаханасці пачаліся вершы. Гэта, напэўна, і было галоўным за ўсе школьныя гады.

Пазней, калі вучыўся ў Лідзе ў вучылішчы, нават хадзіў здаваць кроў, каб атрымаць выходныя і сустрэцца са сваёй дзяўчынай.

А яшчэ, у школе я часам задаваў праблемныя пытанні. Шчыра, без задняй думкі. Настаўніца гісторыі была ў шоку, хоць і не паказвала гэтага, калі запытаўся, ці праўда, што ў Катыні растралялі польскіх афіцэраў. На ўроку фізікі я давoдзіў, што з пастулатаў Бора вынікае тоеснасць матэрыі і энергіі. А на ўроку літаратуры, што чалавечае жыццё важнейшае за варожы танк, важнейшае за сцяг, і нельга ўхваляць падобны гераізм. Цяпер я думаю, што ўсё складаней, але тады без максімалізму не абыходзілася.

### Свабоду не апісаць, яе можна толькі перажыць

**— Універ. Быў нейкі асаблівы дух Гарадзенскага ўнівера ці не? Нарэшце, чаму ты ўсё ж пераехаў з Горадні ў Менск? Гэта не была «здрада месцу»?**

— Менавіта ва ўніверсітэце я канчаткова сфармаваўся як асоба. Разам з перабудовай прыйшла свабода, а хто хоць раз дыхнуў паветра свабоды, ужо ніколі не зможа жыць у няволі. У той час па ўсёй Беларусі пачалі ўтварацца г. зв. нефармальныя суполкі — у Менску «Талака», «Тутэйшыя», у Горадні — «Паходня», потым — імя Максіма Багдановіча, у Лідзе — «Рунь» і г. д. Менавіта ў гэтых суполках я знайшоў сяброў і аднадумцаў, усё, што было дагэтуль, — як перадгісторыя. Мы былі студэнтамі, хто ўніверсітэта імя Янкі Купалы, хто — медінстытута (толькі чамусьці не помню студэнтаў з сельгасінстытута). Мы вучыліся, сябравалі і будавалі новую Беларусь. Тое пачуццё ўздыму нельга перадаць словамі, яго можна толькі перажыць. Калі б не перспектыва, то студэнцкае жыццё магло б замкнуцца на кіслым студэнцкім інтэрнаце, на нудным дзяньгубстве. Пасля першага курса я выехаў з інтэрната на кватэру (яны тады каштавалі капейкі) — не хацеў залежаць ад агульнага бязладдзя, хацеў вучыцца. А потым, з нечаканай прапановы Дануты Бічэль, перавёўся на завочнае аддзяленне, пайшоў працаваць у Бюро прапаганды мастацкай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў. Аб'ездзіў амаль усе раёны.

### Калі чалавек дзеліць каханне між рознымі асобамі, яно драбнее

**— Прабач, але пераведу гаворку на каханне. Людзі расказваюць, што ты сапраўдны паэт, што для цябе ў табе галоўнае. Гэта калі браць паэзію. А калі браць жыццё, то што ў цябе было не адно вялікае каханне, а некалькі вялікіх каханняў. Часам балючых. Чаму так? Як гэта было, з гледзішча паэта? Што цяпер з тваімі каханымі? Увогуле, чалавек — манагамная ці палігамная жывёла?**

— Сапраўдны паэт? Гэта найвышэйшая пахвала, якую я не маю права ні пацвердзіць, ні аспрэчыць. Хай іншыя мяркуюць. Што б ні меркавалі. А тое, што паэзія і каханне, паэзія і жанчына, спарышы —

## Калі каханне было — яно заўжды з табою

чыстая праўда. Я даўно думаю пра няпісаны кодэкс паэта. Стаць паэтам — гэта не толькі пісаць вершы. Вершы можна закінуць, і тады паэзіяй будзе маўчанне. Стаць паэтам — гэта як уступіць у рыцарскі ордэн. Гэта своеасаблівая адказнасць. Калі мяне ў студэнцкія гады спрабавалі вербаваць КДБ, я ўрэшце перапыніў настойлівыя прапановы фразаю: «Я не змагу пісаць вершы, калі буду жыць падвоеным жыццём». І атрымаў у адказ: «Не патрыёт Вы... не патрыёт...»

Дык вось, кодэкс паэта наказвае жыць, як пішаш. Калі ты загаварыў пра характво і каханне, дык будзь гатовы плаціць за слова жыццём. А калі ты не жывеш так, як пішаш, дык і пісаць не варта. Гэта не маралізатарства — гэта эстэтыка. Але ёсць і іншы кодэкс. Мужчына павінен ахвяраваць сябе справе, рабоце, пакліканню, наканаванню, а не трымацца за жаночую спадніцу. Наагул, з гадамі перастаеш купляцца кожнай яркай спадніцай. Што паробіш, часта заўважаеш, што не толькі супярэчлівыя імператывы, але і рамантызм з цынізмам мусяць ужывацца ў адной асобе. Я даўно прыйшоў да высновы, што цынік — гэта расчараваны рамантык.

А каханне, калі яно здараецца, адкрывае такія абсягі, такія фарбы, пра якія ты і не здагадваўся, пакуль калупаўся ў побыце, у дробным флірце. Закаханы чалавек усведамляе сябе роўным з Сусветам. І шкадаваць пра нязбытнае каханне не варта. Калі яно было — яно заўжды з табою. У небе па-за часам усё жыве, што было, што ёсць, што будзе... Я кажу банальныя рэчы, але яны прыходзяць да нас, як вялікае асабістае адкрыццё. А пра свае ўласныя каханні магу сказаць словамі Мандэльштама: «Греки сбондили Елену по волнам, Ну, а мне соленой пеной по губам». Я ўлюбчывы і ў той жа час адналюб. Як спалучыць гэтыя супярэчнасці — не ведаю. Памойму, кахаць можна і не адну жанчыну. Хто сказаў, што адну! Але чалавеку даецца адно вялікае Каханне, і чым больш ён яго дзеліць паміж рознымі асобамі, тым больш драбнее ягонае Каханне. А яшчэ кожны чалавек мае права сказаць: «Я не той, хто быў учора».

### Верш маладнякоўцаў — гэта ўжо расейскі верш

**— Цяпер да паэзіі. Здаецца, ты закаханы ў паэзію XIX, пачатку XX стагоддзя, якую многія абмінаюць. Цётка, Стары Улас, Янка Лучына — гэта ўсё твае героі. Чаму? Гэта рэдкае гурманства.**

— Так, шчырая праўда. Беларускую літаратуру XIX — пачатку XX, нават асобныя тэксты XVII–XVIII стагоддзяў я называю літаратурай «арганічнай пары». Мне не даюць спакою загадкі Альгерда Абуховіча, Вайслава Савіча-Заблоцкага, Францішка Багушэвіча. Пра Максіма Багдановіча можна і не ўспамінаць, ім я займаюся ўсё сваё свядомае жыццё, але Альберт Паўловіч, Гальяш Леўчык цікавыя не ў меншай ступені.

XIX стагоддзе — гэта пара, калі народны дух урэшце прарваў абалонку кніжнасці і выявіў сябе ў такім багацці і разнастайнасці пры вонкавай прастаце, якія нам яшчэ вывучаць і вывучаць. Пазней верх узяла русіфікацыя, савецізацыя і ўніфікацыя. Верш маладнякоўцаў — гэта ўжо расейскі верш. Здаецца, я пісаў пра тое, што ў студэнцкія гады захапляўся складам мыслення, вобразным ладам літаратуры арганічнай пары. У 1990-я гады — спасцігаў для сябе арганічную беларускую мову праз напластаванні розных версіяў, варыянтаў і ўплываў. А з 2000-х — стаў адкрываць загадку беларускага вершавання. Няхай хто з маладых паэтаў ды, зрэшты, і карыфеяў нашага цэху разгадае, як «зроблены» вось гэты верш Старога Уласа:

Доўга у хаце нашыя брацці
Рукі злажыўшы сядзелі,
Бо, як на згубу, дождж ліў як з лубу,
Ліў праз чатыры нядзелі.

Цяпер жа многа выслаўляць Бога
За яго ласку патрэба,
Як за пагоду, так за уроду,
Што яе выслаў нам з неба.

Хай разгадае. Тады разбярэ мову. А потым паспрабуе напісаць такім самым памерам. Баюся, далёка не кожны дасць рады.

Калі ж вярнуцца да майго хутарскога маленства, то мой шлях і шлях пісьменнікаў-нашаніўцаў у ісце нічым не адрозніваецца, як быццам мы сучаснікі. Як і яны, я вырас у традыцыйным народным асяроддзі. Як і яны, не хадзіў у беларускую школу. Як і яны, пасталеўшы, трапіў у самы эпіцэнтр адраджэння.

### Чалавечага жыцця мала

**— Ты не толькі паэт, але і ўнікальны, я б сказаў, навуковец-«граматык». Што ты лічыш самым важным сваім навуковым дасягненнем за першыя 50 гадоў? Што для цябе самае галоўнае зрабіць у наступныя 50?**

— Дзякуй за пахвалу, толькі я скрайне незадаволены першаю палоўаю свайго жыцця. Не сказаць, каб лішне марнаваў час, сёе-тое напісаў, але гэта, можа, пяць, калі не менш, адсоткаў з таго, што меўся і маюся напісаць, што ёсць у накідах, у планах. Не, я моцна не хвалююся з гэтай нагоды, не панікую, усё ў Божай волі, усё ідзе сваім парадкам: спачатку назапашванне інфармацыі, а тады — вынік. Я ўва ўсім развіваўся марудней за сваіх аднагодкаў. І ў жыцці, і ў літаратуры, і ў навуцы. Аднак не трывожыцца не магу. Найлепшым сваім вынікам да нядаўняй пары лічыў рытмалагічны трактат, апублікаваны ў часопісе «Arche» за 2004 год. Але цяпер, калі ўсутыч заняўся фальклорам і стаў разумець механізм народнага вершавання, бачу непаўнату, нават у нечым наіўнасць тагачасных высноў. Летась і сёлета ў часопісе «Роднае слова» з'явіўся шэраг маіх публікацыяў, якія датычаць глыбінных асноў прыроды вершавання. Гэты артыкул разам з трактатам і ёсць найлепшым вынікам. Яшчэ магу дадаць сюды працу пра сістэму часцін мовы, напісаную ў суаўтарстве з Паўлам Букам і змешчаную ў кнізе «Анонс. Квадрат тэкстаў».

Што трэба пісаць далей, я заўжды ведаў на 10—20 гадоў наперад. Гэта не значыць, што планы не мяняюцца. Скажам, нешта планавалася дваццаць гадоў таму, а сёння ўжо выглядае дурным і наіўным. Тым часам тое, чым і не думаў займацца, выйшла на першае месца.

У бліжэйшы год маюся давесці да канца даследаванні пра беларускае народнае вершаванне. І адразу перайсці да агульнай тэорыі верша. На падыходзе класіфікацыя дзеясловаў, а за ёй — класіфікацыя прыметнікаў, крыху пазней — прыслоўяў. Па дзеясловах і прыметніках увесь матэрыял гатовы, напалову апрацаваны, сістэма класаў прадуманая — застаецца толькі прадэманстраваць. Разам з сістэмай часцінаў мовы гэта стане асновай нетрывіяльнай граматыкі беларускай мовы.

Рыхтую спакваля класіфікацыю архітэктонікі сюжэтаў. Поўныя вынікі будуць не скора — сістэматызаваны матэрыял па гульнёвай навеле. Але, як толькі пастаўлю кропку ў народным вершаванні, маюся выдаць невялікі дослед пра навелу.

А першая вялікая праца, якая мае быць пасля вершавання, — падвядзенне вынікаў у справе культуры беларускай мовы, змаганні за яе чысціню. Не буду да канца раскрываць характару задумы, толькі скажу, што гэта мае быць лексікаграфічная праца. Дарэчы, з 1990-х гадоў я збіраю матэрыялы да прыстойнага руска-беларускага слоўніка, спадзяюся некалі дабіцца выніку.

Па натуры я філосаф, усё жыццё адчуваў сябе такім, нядаўна пераглядаў бібліятэку — выявілася: філасофскіх кніг у мяне найболей. Але філалогія была патрэбнейшая за філасофію, і я аддаўся з галавой філалогіі. У мяне ўжо няма надзеі стаць прафесійным філосафам. А мой сын захапляецца матэматыкай і глядзіць на філасофію як на непатрэбшчыну. Я яго пераконваю, што, не засвоіўшы філасофіі, нельга навучыцца мысліць стэрэаскапічна, што антычную мудрасць трэба ведаць кожнаму спецыялісту, які сябе паважае.

*Гутарыў Андрэй Дынько*

### Бліц

**— Твая любімая дарога?**
— Дадому.
**— Твая любімая страва?**
— Дранікі.
**— Твой любімы паэт?**
— Багдановіч і Фет.
**— Твой любімы раман?**
— «Майстар і Маргарыта» Міхаіла Булгакава. Алё ўлюбёны раманіст — Томас Гардзі, а ўлюбёны пісьменнік — Эдгар По.
**— Калі ты адзін, ты...**
— Адпачываю душою.
**— Дзяржава для цябе — гэта...**
— Кароткі варыянт адказу: «Зло, але няўхільнае».
Доўгі варыянт адказу: «Зло, але няўхільнае. Дзяржава адным сваім дотыкам спаганьвае найлепшыя рэчы. Асабліва забойчы яе ўплыў на мастацтва. Лепш ёй туды не сунуцца — хай займаецца гаспадаркаю, крыміналам і не чапае таго, чаго не разумее. Паводле натуры я анархіст і індывідуаліст. Але анархізм як сацыяльную дактрыну ўважаю за ўтопію. Таму, як ні парадаксальна, прыхільнік моцнай і разумнай нацыянальнай дзяржавы».
**— Менск для цябе — гэта...**
— Месца, дзе можна ўкласці свой інтэлектуальны капітал.
**— Горадня для цябе — гэта...**
— Родны горад, часова захоплены чужынцамі.
**— Як ты для сябе патлумачыў смерць Юркі Гуменюка?**
— Не рызыкую нешта сцвярджаць. Апошнія гады мы рэдка бачыліся. Я не ведаю, чым жыў Юра, што яго цешыла, што непакоіла. Той Гуменюк, якога я знаў, ніколі не забіў бы сябе, але людзі мяняюцца... Мы з ім былі розныя. І адносіны ў нас былі няпростыя. Шануючы памяць Гуменюка, я не магу не шанаваць яшчэ аднаго нябожчыка, Андрэя Пяткевіча. Юравы ўспаміны пра Андрэя, нядаўна рэпублікаваныя, — гэта крывое люстэрка ўласных крыўдаў, дзе вельмі мала праўды. Кажу гэта не каб упікнуць, а каб аднавіць справядлівасць.
**— Чаму беларусы — гэта еўрапейцы?**
— Прасцей запытацца, што ў нас НЕеўрапейскае. Сёння актуальна іншае: як не апынуцца ў Еўразіі.
**— Бог — гэта...**
— Кароткі варыянт адказу: «Метафара. Не ў атэістычным, а ў апафатычным плане».
Доўгі варыянт адказу: «Метафара. Так гадоў дваццаць пяць таму я сфармуляваў для сябе гэтую праблему. Азначэнне трэба разумець не ў атэістычным плане, а ў апафатычным. Беларускі філосаф Казімер Лышчынскі, якога несправядліва вінавацілі ў атэізме, казаў на судзе, быццам ёсць Бог хімерычны — гэта наша ўяўленне пра Бога, і Бог рэальны, які недаступны чалавечаму ўспрыняццю. Я думаю, уцалавечанне Бога, шанаванне абразоў — гэта таксама метафары звыш. Бог палічыў, што менавіта такім спосабам будзе для нас даступны і зразумелы. Усе філасофскія сістэмы — гэта метафары сусвету. Усе рэлігіі — гэта метафары нашага сумоўя з Богам. Таму рэлігіяў і філасофіяў шмат, а Бог адзін. І Бог як дзядулька з барадою — куды глыбейшы вобраз, чым сухая экуменістычна-філасофская абстракцыя».
**— Калі б Бог дазволіў табе назаўжды вярнуцца ў нейкі час і нейкае месца, куды б ты вярнуўся?**
— У Дамэйкі на хутар, прыхапіўшы кнігі. А час? Часоў ідэальных не бывае, я ў гэтым часе патрэбен.



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Упершыню ў гісторыі ў парадзе на Дзень Перамогі ў Мінску ўзялі удзел амерыканцы — аркестр еўрапейскага кантынгенту Узброеных сілаў ЗША. На фота: апошняя рэпетыцыя пад дажджом.**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Падчас масавых гулянняў у Мінску: вышымайка і «георгіеўская стужка».**




**Паўабаронцу БАТЭ Яўгену Яблонскаму споўнілася 10 мая 20 гадоў. Фанаты прывіталі яго ў выязным матчы ў Бабруйску супраць «Белшыны» расцяжкай пабеларуску.**




**У іркуцкім нерпінарыі ў Расіі падрыхтавалі «ваенна-патрыятычную праграму»: нерпаў Ласку і Віні-Пуха навучылі насіць берэты на галовах і трымаць аўтаматы і сцягі ў ластах. Акрамя таго, жывёлы адкрываюць пашчы, сімулюючы воінскае прывітанне, і махаюць ластамі, нібы генсекі, якія прымаюць парад Перамогі.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Кажуць, найноўшы расійскі танк «Армата» на рэпетыцыі парада зусім не заглух. Проста механік-кіроўца стаміўся круціць педалі.

* * *

З міліцэйскага пратакола: «Кідаў лебедзям хлеб. Сарваў балет «Лебядзінае возера».

* * *

— Чым просты грамадзянін можа адпомсціць дзяржаве, якая яго абабрала?

— Доўгажыхарствам на пенсіі.

* * *

Знайшоў аднойчы Пуцін старажытную амфару. На дне пасудзіны быў знойдзены скрутак з надпісам: «Дарагому Уладзіміру Уладзіміравічу ад старажытных грэкаў».

* * *

Самая надзейная падушка бяспекі — гэта канапа.

* * *

— Дзед, а праўда, што ты ў пачатку вайны дванаццаць нямецкіх танкаў спыніў голымі рукамі?

— Ну... Як сказаць — спыніў... Недазаправіў...

* * *

Акула можа адчуць кроплю крыві за пяць кіламетраў.

Бабуля можа адчуць, што ты дрэнна ясі, за 4500 кіламетраў.

* * *

Салдат так часта пісаў сваёй дзяўчыне з войска, што тая не дачакалася яго з паштальёнам.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Самалёты над Беластокам.** 28 красавіка раніцай і 29-га вечарам ізноў лётаў над Беластокам нямецкі самалёт, але на гэты раз бомбаў не кідаў.

**«НН». №18. 1915.**

**Напярэдадні Дня Перамогі**, 7 мая, Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб перайменаванні галоўных сталічных праспектаў і некалькіх вуліц. Праспект Скарыны ён назваў праспектам Незалежнасці, Машэрава — Пераможцаў. Вуліцы Дразда, Ерусалімская і Варвашэні аб'яднаныя ў пакручасты праспект Машэрава, а Старабарысаўскі тракт на паўночным усходзе Мінска стаў вуліцай Ф. Скарыны.

**«НН». №18. 2005.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 12.05.2015.
Замова №1842.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15018